# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 09 (3225) Год LXIII Беласток, 04 сакавіка 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




Янаўскія ткачыхі → 3



Тэатральныя запусты → 8

# III Марш памяці выклятых жаўнераў і памінанне ахвяр атрада «Бурага»





Паніхіда па загінуўшых ад атрада «Бурага» служылася ў царкве Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы

Меншая колькасць асоб, як у мінулым годзе, прайшла 24 лютага па Гайнаўцы ў III Маршы памяці выклятых жаўнераў, які арганізавалі Нацыянальная Гайнаўка, Падляшская брыгада Нацыянальна-радыкальнага лагера (ONR) і Патрыятычная «Ягелонія». Траса была падобная да мінулагодняй і сабраныя прайшлі з-пад касцёла Узвышэння Святога Крыжа пад Гайнаўскі дом культуры, праходзячы непадалёк ад сядзібы магістрата. Удзельнікі маршу, як запланавалі, прайшлі каля Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, бо ў мінулым годзе памянялі яго трасу, калі каля сабора сабраліся ўдзельнікі маніфестацыі, сарганізаванай грамадскім рухам Грамадзяне РП. Марш закончыўся ў канцэртнай зале Гайнаўскага дома культуры дэманстрацыяй фільма Эвы Шакаліцкай «Буры — падвойна выклятыя». На трасе маршу каля Свята-Троіцкага сабора ізноў пратэставалі члены руху Грамадзяне РП, якіх на гэты раз ад удзельнікаў маршу раздзялялі паліцыянты. У гэты ж дзень, на дзве гадзіны перад маршам, на скверы каля магістрата была наладжана адкрытая сустрэча «Вечная памяць», падчас якой сабраныя стаялі спакойна, трымаючы ў руках запаленыя знічы і слухалі зачытваных імён і прозвішчаў ахвяр атрада капітана Рамуальда Райса «Бурага». Паніхіда па ахвярах атрада «Бурага», загінуўшых у вёсках былога Бельскага павета на зломе студзеня і лютага 1946 года, служылася ў царкве Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы. Паніхіда па загінуўшых у Залешанах была адслужана таксама каля крыжоў у вёсцы. Маліліся там, між іншым, жыхары Залешан і самаўрадаўцы Гайнаўшчыны.

Перад III Маршам памяці выклятых жаўнераў ізноў многа гаварылася ў Гайнаўцы пра асобу Рамуальда Райса, якога ўзвялічвалі ўдзельнікі папярэдніх маршаў. Рада горада Гайнаўкі на пасяджэнні 21 лютага прыняла адмысловую заяву наконт III Маршу памяці выклятых жаўнераў, запрапанаваную бургамістрам Гайнаўкі Ежы Сіракам пасля кансультацый з раднымі. 16 радных прагаласавала за заявай, 1 радны быў супраць, 1 радны стрымаўся ад галасавання, а 1 радны выйшаў з залы і не быў прысутны пры галасаванні і зачытванні заявы, у якім напісана, між іншым: "Як радныя горада Гайнаўкі і прадстаўнікі мясцовай грамадскасці, аддаючы пашану ахвярам трагічнага морду нявінных цывільных людзей, пратэстуем супраць праслаўленню і ўшанаванню капітана Рамуальда Райса, псеўданім «Буры», а таксама яго жаўнераў шляхам арганізавання публічных сходаў, прысвечаных ушанаванню жаўнераў антыкамуністычнага падполля з нагоды Нацыянальнага дня памяці выклятых жаўнераў». Радныя ў заяве звярнуліся да міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі Іаахіма Брудзінскага з просьбай выступіць з ініцыятывай прыняцця Сеймам закона аб забароне арганізаваць сходы, якія пагражалі б добрым суадносінам грамадзян Рэчы Паспалітай Польскай розных нацыянальнасцей і верavызнанняў. У заяве пішацца таксама пра падзеі 1946 года ў наваколлі Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага, калі атрад пад камандаваннем «Бурага» спацыфікаваў некалькі праваслаўных вёсак, забіваючы 79 чалавек, а сярод іх дзетак.

— Арганізаванне ў Гайнаўцы III Маршу памяці выклятых жаўнераў я лічу правакацыяй і заклікаю жыхароў горада захаваць спакой, — сказаў бургамістр **Ежы Сірак**.

Дзень 24 лютага быў у Гайнаўцы сонечны, але адначасна марозны і дуў моцны вецер. Аднак гэта не перашкодзіла гайнавянам і многім прыезджым сабрацца апоўдні ў цэнтры горада. Перад маршам у Гайнаўцы завязалася ініцыятыўная група, якая на Скверы імя Дзімітрыя Васілеўскага, каля магістрата, на дзве гадзіны перад пачаткам маршу сарганізавала адкрытую сустрэчу «Вечная памяць» дзеля ўшанавання памяці ахвяр атрада Рамуальда Райса «Бурага». Сабраныя стаялі ў цішыні, многія трымалі ў руках запаленыя знічы і слухалі, як зачытваліся імёны і прозвішчы ахвяр атрада «Бурага», якія загінулі ў Залешанах, Занях, Шпаках, Вульцы-Выганоўскай і ў іншых мясцовасцях у 1946 годзе. Яшчэ ў час памінання ахвяр сабраныя пачалі ставіць знічы на помніку ахвярам войнаў, насілля і рэпрэсій.

— Стаім мы тут на марозе, каб сказаць праўду і ўшанаваць памяць ахвяр «Бурага». Праз два гады арганізавання ў Гайнаўцы Маршу выклятых жаўнераў мы былі дома. У гэтым годзе рашыліся прыйсці на адкрытае спатканне, запаліць знічы і зачытаць імёны і прозвішчы ахвяр атраду «Бурага», — сказала **Эва Мароз-Кэчынская** з ініцыятыўнай групы.

Сярод сабраных былі мясцовыя самаўрадаўцы, палітыкі ваяводскага маштабу і адзін з лідараў агульнапольскай партыі Разам Адрыян Зандберг, а таксама нашчадкі ахвяр атрада «Бурага», якія ўспаміналі трагічныя падзеі 72-гадовай даўнасці.

— Калі мой тата паехаў у лес і не вярнуўся дамоў, мне было пяць гадоў і я яго амаль не памятаю. Аднак мама вельмі плакала па бацьку. Пазней мы даведаліся, што забілі яго разам з іншымі фурманамі атрад «Бурага». Мы тады жылі ў Падрочанах, а майго бацьку звалі Фёдар Якімюк, — гаварыла **Валянціна Кярсноўская** з Гайнаўкі, якая прыйшла на сустрэчу разам з мужам Янам.

— Дзе ж гэтыя, што будуць ісці ў маршы, то я ім раскажу, як было 72 гады назад, — заявіў **Ян Кярсноўскі**.

Паніхіду па ахвярах атрада «Бурага» ў царкве Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы ўзначаліў настаяцель прыхода протаіерэй Ян Раманчук. Сярод тых, якія маліліся падчас паніхіды, выдатную большасць складалі маладыя асобы і людзі ў сярэднім узросце, якія жадалі памаліцца за душы загінуўшых менавіта ў Гайнаўцы, дзе праходзіць марш.

— Нас тут у царкве злучыла малітва. Мітрапаліт Сава, стоячы ў Бельску-Падляшскім каля магілы тых, якіх імёны мы тут зачыталі, сказаў, што яны загінулі таму, што былі праваслаўнымі. Няхай удзельнікі маршу ідуць і крычаць, а мы павінны сённяшні дзень правесці спакойна, — сказаў пасля паніхіды протаіерэй **Ян Раманчук**.

**Тамаш Суліма** запрапанаваў сабраным узяць загадзя прынесеныя ў царкву ўкладышы для зніч і ў сваіх дамах у сямнаццаць гадзін вечара запаліць іх у вокнах у знак салідарнасці з ахвярамі атрада «Бурага». Самаўрадаўцы Гайнаўшчыны пасля сустрэчы на скверы паехалі ў Залешаны, дзе каля крыжоў у час гайнаўскага маршу мела быць адслужана паніхіда па ахвярах атрада Рамуальда Райса.

III Марш памяці выклятых жаўнераў выйшаў з-пад касцёла Узвышэння Святога Крыжа і перайшоў у Гайнаўскі дом культуры, праходзячы непадалёк ад магістрата і непасрэдна каля Свята-Троіцкага сабора. Спераду маршу ішлі члены Нацыянальнай Гайнаўкі і Патрыятычнай «Ягелоніі», якія неслі лозунгі. У гэтым годзе збоку маршу былі несены транспарант з надпісам «Чэсць і хвала богатэром», дзе побач Дануты Седзікуўны «Інкі» і іншых выклятых жаўнераў віднела выява Рамуальда Райса. Рэканструкцыйная група ішла ў канцы маршу, які ахоўваўся вялікай колькасцю паліцыянтаў. Арганізатары яшчэ перад маршам заявілі, што прыйшлі ўшанаваць памяць выклятых жаўнераў, якія змагаліся да канца, бо ў іх не было іншага выхаду. Маладыя асобы, якія ішлі ў маршу, неслі бел-чырвоныя сцягі і сцягі ONR. Удзельнікі маршу голасна выкрыквалі лозунгі: «Чэсць вашэй паменці — жолнежэ выкленці», «Арміё выклента — Гайнувка о вас памента», «Велька Польска хшэсціяньска», а пазней «Буры — наш богатэр» і іншыя. Гайнавяне розных узростаў ішлі побач маршу па тратуарах, а паміж імі і ўдзельнікамі маршу ішлі паліцыянты. Па вузкай вуліцы айца Антонія Дзевятоўскага сталі працаўнікі маршу з руху Грамадзяне РП з лозунгамі «Буры не герой», ці «Мая айчына — чалавечнасць». Калі пратэстуючыя побач Свята-Троіцкага сабора рабілі спробы прытармазіць марш, паліцыянты рабілі дарогу для ідучых у маршы. Паліцыя паведаміла, што 6 пратэстуючых на дарозе маршу, якія не выконвалі загадаў паліцыянтаў, былі затрыманыя. Марш закончыўся ў канцэртнай зале Гайнаўскага дома культуры дэманстрацыяй фільма «Буры — падвойна выклятыя», якога рэжысёрам з'яўляецца Эва Шакаліцкая.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**





# Марныя спрэчкі

Чым добрыя сацыяльныя сеткі? Найперш тым, што дазваляюць хутка атрымаць гарачую інфармацыю, самыя свежыя навіны і каментарыі на падзеі ў тваёй краіне ды ва ўсім свеце. Таксама яны значна спрашчаюць камунікацыю паміж людзьмі. У якой бы кропцы зямнога шара ты не знаходзіўся, калі маеш падлучэнне да інтэрнэту, у кожны момант можаш скантактавацца з сябрамі ці роднымі, нешта паведаміць, дамовіцца, падзяліцца нейкай радасцю ці праблемай, альбо проста прывітацца. Сацыяльныя сеткі — гэта ўжо наша звыклая рэальнасць, ад якой нікуды не падзецца. Як і кожнае іншае тэхнічнае вынаходніцтва яны могуць служыць добрай справе, а могуць распаўсюджваць шкодныя ідэі, несці ксенафобію, распальваць варожасць. Нездарма тэрмін „інфармацыйная вайна" ў дваццаць першым стагоддзі набыў новае напаўненне і значнасць. Але зараз не зусім пра гэта.

Што адмоўнага ў сацыяльных сетках? Гэта тое, што яны адымаюць у цяперашняга чалавека вельмі шмат часу. Ведаю некаторых сяброў і знаёмых, якія адмыслова не рэгіструюцца ў фейсбуках-твітарахінстаграмах, рэзонна баючыся, каб іх не паглынула гэтая віртуальная бездань. А самае горшае ў сацсетках — гэта даць уцягнуць сябе ў бясконцыя дыскусіі і зацятыя спрэчкі. Тым больш, што гэтая прастора проста кішыць рознымі тролямі, пераверацнямі і правакатарамі. Недасведчанаму чалавеку цяжка ўтрымацца ад таго, каб не ўвязацца ў гарачую спрэчку, у якой часцяком даходзіць да брудных слоў і абразы. Ад такіх непатрэбнасцей, аднак, адгарадзіцца не так складана. Дастаткова не далучаць сумнеўных асоб у сябры, выдаляць з іх ліку відавочных хамаў, не адказваць на такія выпады, якія выразна выглядаюць на правакацыйныя.

Намнога цяжэй не ўвязвацца ў дыскусіі з людзьмі блізкімі па духу і светапогляду, бо часам паразумецца нават з блізкімі сябрамі па нейкіх тэмах ці пытаннях складана. Пераканаўся я ў гэтым на ўласным досведзе. У голым выніку толькі марна патрачаны час і нервы, бо кожны застаецца пры сваім. Гэта толькі ў крылатым выслоўі ісціна нараджаецца ў спрэчках. Насамрэч людзі рэдка хочуць слухаць чужыя аргументы і прызнаваць чужую рацыю. Такая ўжо ў насельнікаў гэтай планеты натура. Таму лепш за ўсё, калі маеш што сказаць, выкласці сваю думку і не ўвязвацца ў далейшую багну абмеркаванняў.

Апошнія тыдні беларускі грамадскі актыў найбольш спрачаўся пра так званыя мясцовыя „выбары". Значна менш абмяркоўвалі алімпіяду і выступы на ёй суайчыннікаў. З белай алімпіядай прасцей. У цэлым заваёвы беларусаў, а дакладней беларусак, у кожным разе пойдуць у скарбонку нацыянальных заваёў і нашага гонару, нягледзячы на памкненне дзяржаўных ідэолагаў „прыватызаваць" гэтыя спартовыя поспехі. Заўсёды прыемна калі твая краіна ў медальным заліку стаіць вышэй многіх іншых магутных дзяржаў. Хоць не маем тут ніякіх ілюзій — піраміды масавага спорту і сістэмнай рыхтоўкі высакакласных спартоўцаў у Беларусі, на жаль, няма. У гэтым сэнсе сітуацыя горшая, чым нават у час Савецкага Саюза, калі фізкультура і спорт былі сапраўды масавымі.

Але вернемся да выбараў-„вырабаў". Улада давяла іх да поўнага абсурду, па бальшыні акруг не было нават фармальнай альтэрнатывы. Так званыя „дэпутаты" былі прызначаны заранёў у класічных савецкіх традыцыях, выбарчая кампанія праходзіла толькі дзеля карцінкі. А вось грамадскія актывісты нямала пасварыліся на старонках сацыяльных сетак. Адны з іх бралі ўдзел у гэтай кампаніі і пераконвалі, што пасіўнасць нічога не вартая, трэба ісці да людзей і даводзіць свае пазіцыі і погляды на тое, што робіцца ў краіне. Іншыя заклікалі да байкоту, ці да ігнаравання гэтага выбарчага фарсу і вінавацілі апанентаў у тым, што сваім удзелам яны дапамагаюць надаць выбарам у мясцовыя саветы легітымнасць. І тыя, і іншыя прыводзілі дастаткова шмат аргументаў. У кожнага тут была свая рацыя і праўда. Трацейскім арбітрам выступаць нікому не хацелася. Дэпутаты, якія нічога не вырашаюць, урэшце вызначаны. Дыскусіі ў сацсетках сціхлі, а хто меў рацыю з дэмакратаў — засталося невядомым. Марныя спрэчкі...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Дробка песімізму ў некалькіх часцінах



Частка першая

Я прызнаюся, што нічога не разумею. Ані таго, што сёння робіцца ў свеце, ані таго, што вычвараецца ў Польшчы. Можа быць, ніхто не ў стане гэтага зразумець. Тут і цяпер. Я па-сапраўднаму перапалоханы. Але суцяшаю сябе надзеяй, што тое, што здавалася быць страшным для мінулых пакаленняў, з пункту гледжання будучага можа аказацца неабходным і дабратворным. Хоць для мяне слабое суцяшэнне, але, кіруючыся відавым салідарызмам, прыглядваюся таму з верай, што непазбежна вядзе да разбурэння свету. А калі свету, дык і няшчаснай Польшчы. Я падкрэсліваю, аднак, што спадзяюся, што пасля наступнага апакаліпсісу, які навіс над нашымі галовамі, адродзіцца лепшы чалавек. Каб так і было.

Мы зарабілі на знішчэнне ўсе аднолькава, спажываючы самазабыўна дабро Зямлі, дамовіўшыся на сацыяльныя няроўнасці, плодзячыся без абмежаванняў, аддаючыся бяздумна фанабэрыстасці і неразважлівасці. І перш за ўсё, духоўнай ленасці, якая ахоплівае ўсе аспекты нашага жыцця, пачынаючы з маленькай хлусні, праз здраду, і заканчваючы крыважэрным генацыдам. Гэта зусім розныя, але вельмі інтрыгуючыя тэмы чалавечай гісторыі.

А калі наконт нашай будучыні, то, хутчэй за ўсё, мы можам адчытаць яе ў цяперашні час. Хопіць сягнуць да асноўнага курсу фізікі, дзе сувязь паміж прычынай і вынікам выразна тлумачыцца другім закон Ньютана. У спрашчэнні ён кажа, што кожнае дзеянне выклікае рэакцыю. У прыватнасці, сіла акцыі роўная сіле рэакцыі. Можа быць, у вушах многіх чытачоў гэта гучыць абсурдна, але заява, што сіла, з якой ударым сваёй галавой аб сцяну, роўная сіле, з якой ён здрабняе нашу далікатную сценку чэрапа, што фізічна правільна. І, перш за ўсё, рэальна. Аднак, гэта супярэчыць нашай інтуіцыі. Сцяна ўсё яшчэ стаіць у рэшце рэшт, таму што гэта сцяна — жорсткая і салідная. А чэрап разбіваем аб яе таму, што яна больш масіўная, чым чалавечы чэрап. Вядомая ўсім праўда, што галавой мур не разваліш. Толькі праўда зусім іншая. Прынамсі, у фізічным сэнсе. І чаму гэтае рашэнне пакідаю дапытлівым.

Па вышэйпрыведзеным ньютанаўскім прыкладзе я толькі хацеў праілюстраваць простае правіла, што кожнае чалавечае дзеянне ў навакольным чалавечым ці натуральным асяроддзі выклікае рэакцыю, для большасці з нас інтуітыўна неверагодную, але рана ці позна адчувальную. Калі не ў сучаснасці, дык у будучыні. Інакш кажучы, колькі разоў трэснем галавой у мур, ён шмат разоў аддасць нам тое ж самае. Колькі разоў кагосьці зняважым дрэнным словам, столькі ж разоў пакрыўдзяць нас не менш выродлівыя словы іншых. І г.д., і да г.п. А калі нехта кажа, што гэта не так, дык ілжэ проста ў вочы. Або ён невук, ці шарлатан. Распуцін. Гітлер, Сталін. Гісторыя запісала або несумленна запіша ў будучыні больш такіх злавесных імёнаў. Я спыняюся на гэтых трох, дастаткова знакавых. Па-д'ябальску.

У любым выпадку, свет, які мы ведалі і любілі, незваротна мінуў. Я так думаю. Хай гэта будзе банальным, але ў гэтым сіла праўдзівасці. Таму, што мы любім тое, што ведаем. Нам не падабаецца невядомасць. Гэта палохае нас, выклікае атавістычны страх жыхароў пячор, вымушаных уцякаць у неабсяжную саванну. Блукаем статкам па бездарожжах свету, напоўненыя першасным страхам. Трывога, якая агортвае кожнага паасобку ды незаўважана ўсіх людзей, стала амаль датыкальнай. Нявызначаны страх становіцца ўсё больш паўсюдным, першы элемент узмацняе другі. Гэты трэці — боязь — знаходзіць выхад у агрэсіі. Яна з'яўляецца найбольш эфектыўным спосабам разрадкі трывогі. Толькі што яе індывідуальныя праявы пранікаюць у грамадства. Супольнасці аўтэнтыфікуюць сябе праз падобныя эмоцыі адзінак. Калі яны вызначацца (або нехта іх вызначыць), яны знаходзяць для сябе ворага — іншыя супольнасці, групы людзей або нацыянальныя ці сексуальныя меншасці, індывідуальнасці...

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Праўда таксама яднае

Дзякуй Богу, чарговы гайнаўскі марш у гонар камандзіра Рамуальда Райса «Бурага» ўжо за намі. Шмат эмоцый, страху, нянавісці спадарожнічае гэтай правакацыі ў польска-беларускіх дачыненнях. Менавіта правакацыя з'яўляецца тым найлепшым тэрмінам, якім павінны мы карыстацца, называючы тую падзею. Бо ніхто, хто ўмее чытаць, думаць і ўслухацца ў другога чалавека, не будзе рабіць такіх рэчаў, як услаўленне дзеянняў, за якімі стаяць кроў, слёзы і ахвяры, прынесеныя ў імя нацыянальнай варажнечы. На шчасце разуменне такога гістарычнага мінулага не з'яўляецца чужым і для польскіх гісторыкаў, публіцыстаў, палітыкаў ці звычайных грамадзян. Кніжка правага аўтара Пётра Зыховіча «Плямы на панцырах» пра злачынствы некаторых герояў польскага антыкамуністычнага падполля з'яўляецца доказам думання ў катэгорыях гістарычнай праўды. Таму дзеля той праўды ў сваім фельетоне хачу прывесці словы польскіх палітыкаў правага і левага лагера, якія ў выказваннях для Радыё Рацыя не пакідаюць таксама аніякіх сумненняў наконт спрэчных герояў. Сапраўды, не ёсць так, каб мы ў сваім бачанні свету, звязанага з нашымі польска-беларускімі суадносінамі, пачалі раптам абвінавачваць усіх палякаў у пасляваенных трагедыях. Такі падыход, на жаль, не чужы многім нашым супляменнікам. А гэта таксама сорам для нас і трэба пра тое таксама гаварыць адкрыта, паколькі няма бязгрэшных народаў і людзей.

Паводле былога віцэ-міністра замежных спраў Польшчы Паўла Коваля, такую асобу як «Буры» нельга лічыць польскім героем: «Калі нехта нават мае вельмі добрую гісторыю як жаўнер і афіцэр, але ў яго ный біяграфіі з'яўляюцца такія элементы, якія можна акрэсліць як генацыд ці іншыя ваенныя злачынствы, дык мне ясна, што яго нельга паказваць як героя, ставіць у прыклад для пераймання, нельга выносіць на помнікі». Як дадае Павел Коваль, дзяржава, якая мае вялікую гісторыю падпольнай барацьбы, змагання Арміі Краёвай, не павінна маўчаць і пра сітуацыі, дзе дайшло да злачынстваў: «Справа гонару сучаснай дзяржавы, незалежна ад нацыянальнага кантэксту, асудзіць кожнае дзеянне, якое можна акрэсліць як ваеннае злачынства, бо гэта пытанне нашай верагоднасці, нашай легітымізацыі на міжнароднай арэне».

Так выказваецца асоба, якая будучы і палітыкам, і гісторыкам аж надта добра разумее, што ўслаўляючы такіх герояў наносіцца польскаму грамадству больш шкоды чымсьці карысці. А як, на жаль, бачым, адсутнасць такога думання пакуль чужая многім стваральнікам сённяшняй гістарычна-адукацыйнай палітыкі ў краіне. Ад гадоў паслядоўным у сваіх выказваннях наконт Рамуальда Райса з'яўляецца палітык левага напрамку Адрыян Зандберг: «Я лічу ганебным тое, што гэтыя правакацыйныя дзеянні, арганізаваныя ўльтраправымі, будуць адбывацца на вуліцах Гайнаўкі. Такое папросту не павінна адбывацца, бо гэта сварыць мясцовую грамаду, настройвае брата супраць брата».

Менавіта мы самі павінны перш за ўсё памятаць, што бязвінныя ахвяры загінулі толькі таму, што былі беларусамі, якія жылі на сваёй Бацькаўшчыне. У ІІ Рэчы Паспалітай для ўсіх нацыянальных меншасцей была яна той зямлёю, на якой мы павінны застацца толькі палякамі, а не беларусамі, жыдамі, літоўцамі, украінцамі. Адзіным дапушчальным варыянтам у нашым выпадку было «перавыхаванне» нас на праваслаўных палякаў. Таму лічу вялікай крыўдай і памылкай для справы ахвяр і іхніх нашчадкаў з боку «нашых» палітыкаў і духоўных гаварыць пра гэтую трагедыю толькі ў міжканфесійным вымярэнні. А наша стаўленне да гайнаўскага маршу вельмі трапна пракаментаваў прафесар Алег Латышонак: «Нам, беларусам Беласточчыны, трэба, аднак, захаваць стойкасць, не паддавацца на правакацыю і рабіць сваё. Хутка будзе 25 сакавіка, якое мы павінны годна адсвяткаваць. Павінны мы ўшаноўваць ахвяр, але не па іхніх тэрмінах, а па сваіх. Не таму ехаць у Залешаны ці Зані, што нейкія нацыяналісты арганізуюць Марш выклятых жаўнераў, а толькі з патрэбы сэрца і ў свой час. Мы наогул не павінны адказваць на нейкія правакацыі, трэба іх трактаваць так, быццам іх не было». Трэба жыць проста па-нашаму, па-беларуску.

**Яўген ВАПА**

# Янаў слаўны дыванамі

**Гарадок, які развіваўся дзякуючы славутаму роду Сапегаў, сёння не мае ўжо так вялікага значэння. Янаў, што на Сакольшчыне сёння, магло б здавацца, не мае вялікага значэння на фоне большых гарадоў. Аднак, так як калісьці Сапегі прычыніліся да яго развіцця, так сёння працуюць на гэта жанчыны-ткачыхі, якія мастацкай працай, вырабам двухасноўных дываноў расслаўляюць Янаў не толькі ў Польшчы, але і за яе межамі.**

Да канца XIII стагоддзя тэрыторыю гміны Янаў насяляла племя яцвягаў. Сведчаць аб гэтым гарадзішча і курганы. Найбольш вядомыя курганы, гэта тыя, якія захаваліся ў вёсках Ясянова Даліна і Тэолін ці гарадзішча ў вёсцы Трасцянка. Заснаванне Янава гэта заслуга Казіміра Санніцкага, мечніка Вялікага Княства Літоўскага. Горад паўстаў паміж 1709 і 1712 гадамі. Янаў узяў сваю назву ад Яна Сапегі, які быў уласнікам маёнтка на гэтай тэрыторыі. Станіслаў Сапега і яго жонка Тэадора прычыніліся да надання гарадскіх правоў для Янава. Сапегі таксама прычыніліся да развіцця гарадка, вызначылі плошчы пад рынак, касцёл, а пазней з наплывам яўрэяў — пад сінагогу. Прасторавую планіроўку гарадка запраектаваў сам Антон Тызенгаўс.

Сёння засталіся сляды па даўнім Янаве, але менавіта гэта вёскі вакол гарадка ствараюць асяродак народнай культуры, дзякуючы ўнікальнаму ў маштабе Еўропы метаду ткання двухасноўных дываноў. Працэс стварэння такой тканіны можна падглядаць у Ткацкай ізбе ў Янаве. На тэрыторыі гміны існуе таксама Шлях народнага рукадзелля.



Другая злева Тэрэса Прызмонт



Лаўраэткі конкурсу «Дарога праз вёску»

### Конкурсныя працы

«Дарога праз вёску» — пад такім загалоўкам 13 лютага прайшло адкрыццё выставы ў Музеі Сакольскай зямлі. На выставе былі прадстаўлены конкурсныя працы ткачых, якія робяць дываны даўнейшым сакольскім метадам. Менавіта вядучай тэмай штогадовага конкурсу была «Дарога праз вёску». Кожная з ткачых той элемент прадставіла на сваім дыване, паводле сваіх успамінаў і ўяўленняў. Кожная па-свойму была цікавая.

— Калі я думала аб сваім дыване на конкурс, ведала, што кожная ткачыха дарогу зробіць уздоўж, а я зрабіла ўпоперак, — кажа лаўраэтка конкурсу Тэрэса Прызмонт. — На маім дыване едуць людзі на возе, там ёсць школа, едуць дзеці на роварах, пешшу ідуць і бягуць у школу. Едзе гаспадар на трактары. Ёсць і каплічка, каб памаліцца. Я за два тыдні звычайна тку, як ужо на кросны закладу. Але вось гэты трошку даўжэй рабіла.

Сёлета ткачыхі будуць рыхтавацца да новага выпуску конкурсу, арганізаванага Гмінным цэнтрам культуры, спорту і турызму ў Янаве. Тэма працы: «Вясковая забава». Тыя будзе можна аглядаць у час абвяшчэння вынікаў, восенню 2018 года.

### Перадаць майстэрства

Падляшскія ткачы таксама дзеляцца сваімі ведамі з гасцямі з Японіі. Янаў і Шацілоўку наведала група з сямі чалавек для ўдзелу ў майстар-класе па тканні. Ідэя належыць японцы Ізумі Фуяіта, якая жыве ў Польшчы і ўжо ад шасці гадоў супрацоўнічае з янаўскімі ткачыхамі. Да гэтай пары ў Японіі прадала яна каля дзвюх тысяч тканін з Сакольшчыны. Зацікаўленасць была настолькі вялікая, што вырашыла яна арганізаваць майстар-класы ў Польшчы. Тыя вялі янаўскія ткачыхі Тэрэса Прызмонт і, сёлетняя лаўраэтка стыпендыі Маршалка Падляшскага ваяводства, Бернарда Росць. Двухасноўным ткацтвам цікавяцца не толькі госці з далёкіх краін. Таксама ў янаўскай гміне знайшліся асобы, якія спрабавалі вывучыць ткацтва. Двухасноўнае ткацтва зараз рэдка сустракаецца. На шчасце гэтай формай мастацтва пачалі цікавіцца і маладыя людзі, якія стараюцца пагльбляць сакрэт пераплятання нітак на старых ткацкіх кроснах.



Бернарда Росць

— Мая гісторыя з тканнем пачалася ад праекта «Майстар традыцыі». Тут проста майстар свае веды перадаваў вучню, — адзначыла Агнешка Іваніцкая з Сакольшчыны.— Варункам конкурсу было тое, каб майстар вучыў асобу з мясцовасці, або з сям'і. Я сабе падумала: чаму не!? Мела на гэта цэлы год. Я ездзіла да сваёй мамы і зараз ужо маю нават сваіх кліентаў, якія купілі ў мяне дываны!

Двухасноўныя тканіны папулярнасць здабываюць і ў падляшскіх гарадах. Вось, на блоку па вуліцы Радзымінскай 18 у Беластоку стварылі фрэску, інспіраваную двухасноўнай тканінай аўтарства Люцыны Кендзерскай пад загалоўкам «Пячэнне хлеба».

### Янаў калыскай двухасноўнага ткацтва

У нашым рэгіёне яшчэ стварае шэраг мастачак-ткачых. На іх кроснах паўстаюць цудоўныя двухасноўныя тканіны, так званыя падвойныя дываны, янаўскія дываны, сакольскія дываны, гарадзенскія дываны.

— Яны былі названы гарадзенскімі таму, што Саколка знаходзіцца каля Гародні, — тлумачыць Войцех Кавальчук. — Вядома, на Гарадзеншчыне таксама ткалі, але менавіта тут, на Сакольшчыне, было найбольш актыўных ткачых. Расславіла гэтыя дываны Елеанора Плютыньская, якая працавала разам з ткачыхамі ў ваколіцах Янава. Ніхто не ведаў дзе Янаў, не ведалі часта дзе Саколка. Таму пра дываны часта гаварылі: гарадзенскія.

Падляшскі музей у Беластоку мае вялікую калекцыю двухасноўных тканін. Зараз дываны можна таксама аглядаць у Ткацкай ізбе ў Янаве. Менавіта тутэйшы Асяродак культуры штогод арганізуе конкурсы на двухасноўныя дываны.

— Ткацкая ізба ў Янаве паўстала ў 1986 годзе. Гэта будынак, дзе раней знаходзіўся асяродак культуры, — кажа дырэктарка Гміннага асяродка культуры, спорту і турызму ў Янаве Юстына Грыбовіч. — У дзевяностыя гады там таксама знаходзілася ткацкая школа і ткацкая ізба. У 2012 годзе будынак прайшоў рамонт і зараз большая яго частка гэта залы, у якіх знаходзяцца экспазіцыі. Прэзентуем там тканіны, кросны. З гэтага году там таксама працуе асоба, якая паказвае цэлы працэс ткання. Цяпер кожны, хто хоча больш даведацца пра янаўскае ткацтва, менавіта сюды павінен зайсці.

Ткацкая ізба ў Янаве і наогул Янаўская гміна з'яўляецца месцам, у якім захавалася традыцыя двухасноўнага ткацтва. Можна сказаць, што гэта адзіны ткацкі асяродак у Польшчы, бо двухасноўная тканіна вельмі ўнікальная, робленая нямногімі. Тут, у гміне Янаў, працуе пяць ткацкіх варштатаў. А як гавораць дасведчаныя ткачыхі, будзе іх яшчэ больш.

Тэкст і фота **Улі ШУБЗДЫ**

## Небяспечна на былым вакзале

У Плянце Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета шмат гадоў таму быў даволі вялікі чыгуначны вакзал. Тут была пачакальня для пасажыраў і нават святліца са сцэнай. У ёй адбываліся шматлікія культурна-асветныя мерапрыемствы. Калі перасталі ездзіць пасажырскія паязды з Гайнаўкі ў Семяноўку і з часам далей у Цісоўку, тады ліквідавалі прыгожы драўляны вакзальны будынак пачакальні з білетнымі касамі, драўляны, арыгінальнай архітэктуры дом на адну сям'ю для чыгуначніка і прысядзібны яблыневы садок. Развінцілі і забралі рэйкі і шпалы з двёх пуцей, табліцы з назвай вакзала, салідна зробленыя лавачкі, якія стаялі на перонах, слупы і лямпачкі электраасвятлення трох перонаў і вакзальнай пляцоўкі. Стала пуста і глуха.

Зараз тут інакш. Ужо ідзе трэці год як цераз Плянту пачалі часцей і часцей ездзіць паязды з таварнымі вагонамі з Чаромхі ў Семяноўку і адтуль за дзяржаўную мяжу — у Свіслач у Рэспубліцы Беларусь. Зараз рух паяздоў — як палічылі чыгуначнікі — з кожным годам большы на 20 працэнтаў. Доўгія, з сарака вагонаў таварныя паязды ездзяць пераважна ноччу. Не ўсе яны затрымліваюцца ў Плянце. Але часта бывае, што ў Плянце расчапляюць вагоны і лакаматывы пераганяюць з адной пуці на другую, на г.зв. манеўровай пляцоўцы з раз'ездамі і затым счапляюць іх з вагонамі. І вось уночы яна — ажно жах — неасветленая! Неасветленыя і даволі доўгія пероны колішняга вакзала. Адкуль вядома машыністам поезда: ехалі яны ці не ехалі цераз Плянту. Можа толькі з джыпіэса? Бо тут іншай інфармацыі няма, ні адной дошкі з назвай мясцовасці. Усё засакрэчана, тайна.

Часам упоцемках пераходзяць цераз існуючыя пуці жыхары з адной часткі вёскі Плянта ў другую ды пераносяць ровары над рэйкамі. У цэмры гэта вельмі небяспечна. Чыгуначны пераезд з г.зв. дарожнымі запорамі добра асветлены ноччу і пад наглядам (яго закрываюць, калі едзе поезд і адкрываюць), але ён адсюль паўкіламетра.

## Дэмаграфія
### Мілейчыцкай гміны

Мілейчыцкая гміна Сямятыцкага павета мяжуе з Боцькаўскай, Чаромхаўскай, Дзядковіцкай, Кляшчэлеўскай і Нурэцкай гмінамі. Шчыльнасць насельніцтва — 12 чалавек на квадратны кіламетр.

У 2017 годзе ў Мілейчыцкай гміне пражывала 1999 чалавек у 21 населеным пункце. На 100 мужчын прыпадае 115 жанчын. У 2012 годзе ў гміне было 2015 чалавек. Найбольшыя вёскі ў гміне гэта Мілейчычы — яна налічвае 815 жыхароў, Паканева — 170, Валкі — 133, Паканева-Калёнія і Сабятына — па 114 ды Рагачы — 103 чалавекі.

Ад трыццаці да ста жыхароў налічваюць вёскі Харашчэва — 77, Харашчэва-Калёнія — 70, Навасёлкі — 61, Мікулічы — 56, Клімковічы — 45, Грабарка — 36, Левашы — 35, Мядзвежыкі — 34, Белкі — 33 і Баравікі — 31. Самыя малыя вёсачкі гэта Ялтушчыкі — усяго 7 жыхароў, Касцюковічы — 10, Галубоўшчына — 15, Ханькі — 17 і Любейкі — 23.

У вёсцы Мядзвежыкі жыве стагадовая Тацццяна Гуль. Яе юбілей святкавалі ў мясцовай святліцы з удзелам прадстаўнікоў гмінных улад — войта Юрыя Іваноўца і старшыні Гміннай рады Мікалая Кочука. Прыйшлі пажаданні юбілярцы ад старшыні Рады Міністраў Матэвуша Маравецкага і падляшскага ваяводы Багдана Пашкоўскага. (яц)



■ Мастацкія выступленні ў праваслаўнай школе

# Патрыятычная дыктоўка!

З году ў год пашыраецца на Падляшшы ідэя беларускай дыктоўкі, прымеркаванай да Сусветнага Дня роднай мовы, які адзначаем 21 лютага. Як першыя, у нас, пачалі пісаць вучні праваслаўнай школы ў Беластоку. Ідэю ажыццявіла настаўніца Іаанна Марко ў 2013 годзе. Ад пачатку гэтая, здавалася б, няпростая задача спалучылася з вялікім зацікаўленнем і энтузіязмам вучняў. На гэта паўплываў аўтарытэт настаўніцы і яе педагагічны талент, а таксама падтрымка бацькоўскай рады і дырэкцыі.

21 лютага 2013 года — памятная дата для Беласточчыны. У гэты дзень, пад белчырвона-белымі сцягамі пахавалі пісьменніка Сакрата Яновіча. У сувязі з нечаканым здарэннем дыктоўку адтэрмінавалі на пасляабедзенныя гадзіны. Арганізатары пачакалі, пакуль журналісты, у тым ліку ніжэйпадпісаная, вернуцца з Крынак. У гэты марозны дзень не існавала пытання падборкі тэкстаў для дыктоўкі. Мініяцюры Яновіча пра родную мову ідэальна сыграліся з ідэяй першай дыктоўкі. Адначасова вучні і арганізатары свята аддалі шчыры паклон адышоўшаму ў вечнасць выдатнаму пісьменніку і беларусу з Крынак.

Добры пачатак паспрыяў шматбаковаму развіццю ідэі. Хоць у школе мяняюцца настаўнікі беларускай мовы, нацыянальная дыктоўка адбываецца кожны год пры вялікім зацікаўленні і радасці вучняў. Змест сачыненняў звычайна прымеркаваны да важных для беларусаў гадавін, якія эмацыйна спасылаюцца на гісторыю, сучаснасць і будучыню.

Найбольшы выклік, калі ідзе пра граматыку, чакаў беластоцкіх гімназістаў.

Яны пісалі тэкст адозвы Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвілы «Год БНР» (паводле адозвы надрукаванай у «Ніве» № 6/2018). Важны, набрыняны ў гістарычную рэфлексію і адначасова веру ў лепшую будучыню Беларусі тэкст прадыктаваў доктар Васіль Сегень, намеснік старшыні БГКТ. Таксама ў ролі вядоўцы ў малодшай групе выступіў сам старшыня БГКТ Ян Сычэўскі.

У час мастацкай часткі вучні і госці выступілі на фоне лагатыпа школы і бел-чырвона-белага сцяга. Наша рэдакцыя, якая ад пачатку трымае патранат над дыктоўкай, назначыла важныя ўзнагароды — пераможцы дыктоўкі атрымаюць гадавую падпіску на «Ніву». У якасці падарунка мы прапанавалі аўтарскія чытанні Міры Лукшы з яе новага зборніка «Спеў дрэў», а галоўны рэдактар Яўген Вапа падарыў «Святое пісанне для моладзі і дзяцей» на беларускай мове.

Разам з вучнямі праваслаўнай школы дыктоўку пісалі беластоцкая моладзь з Гімназіі № 7 і вучні з Нарвы. Іх энтузіязм варты найбольшай узнагароды. Вось, у наш час, калі школьнікаў давозяць пад хату арганізаваным транспартам, госці з Нарвы — ажно 17 вучняў, прыехалі з настаўніцай і бацькамі на рэйсавым аўтобусе. Як паўтаралі, звабіла іх гасцінная і сяброўская атмасфера школы.


■ Дыктоўку у ПШ вядзе Янка Сычэўскі

З падобным энтузіязмам прывіталі мы першую дыктоўку ў бельскай «тройцы». Хоць свята пачыналася ў восем раніцы, у поўным саставе з'явіліся беларускія радыёжурналісты Яраслаў Іванюк, Міхал Сцепанюк, Уршуля Шубзда, Давід Гайко, а таксама Тамаш Суліма і Дарафей Фіёнік. Змест кароценькай дыктоўкі датычыў роднай мовы (пішам пра гэта ў «Зорцы») і ўсё пайшло хутка і гладка. Галоўнай мэтай, якую дасягнулі настаўнікі — гэта прамоцыя пісьменнасці і радасць з самога ўдзельніцтва. Тут таксама адбылася свайго роду дэманстрацыя патрыятызму. 21 лютага г.г. у «тройцы» пісалі таксама дыктоўку па польскай мове. На здзіў і радасць настаўнікам беларускай мовы, іхняя прапанова выклікала большае зацікаўленне і прыцягнула больш удзельнікаў. Яшчэ да таго госці і журналісты прыгадалі пачаткі «Бельскага гасцінца», які сёлета адзначае 20 гадоў. У ходзе сустрэчы прайшла першая прэзентацыя кніжкі «Ярослав Костыцэвич» аўтарства Дарафея Фіёніка. Моцны і інтэлектуальны, і патрыятычны зарад з самай раніцы відавочна разбудзіў бельскіх гімназістаў і старэйшых вучняў. Хоць моладзь у сваёй масе польскамоўная і не надта зацікаўленая справамі нацыянальнасці, калі спрыяльная атмасфера, ступае на шлях пошукаў і зразумення важных пытанняў. Для гэтага неабходная грамата і пісьменнасць. Песні і танцы можна вывучыць у хаце або ў доме культуры. Аднак без ведання мовы і пісьма цяжка прачытаць кніжку ці запісаць важныя ўспаміны. На прыкладзе прадметнага конкурсу па беларускай мове можна прасачыць інтэлектуальны патэнцыял і ўзровень навучання ў паасобных школах. Як адзначылі з вялікім шкадаваннем бельскія настаўнікі, у гэтым годзе, па-за выключэннямі, у конкурсе перайшлі толькі Бельск, Беласток і Гайнаўка. І пакуль будзе існаваць тэндэнцыя ў абмежаванні колькасці лаўрэатаў па беларускай мове, — а гэта пачалося ўжо год раней, — адначасова зменшыцца матывацыя вывучаць мову ў вёсках і мястэчках. Ужо сёння можам сустрэць шмат выпускнікоў, якія прасядзелі на ўроках дзевяць гадоў і не ўмеюць прачытаць аднаго сказа на беларускай мове.

* * *

21 лютага беларускую дыктоўку ўжо чарговы раз правёў Беларускі дом у Варшаве. Таксама ў Варшаве ўпершыню дыктоўку пісалі студэнты Варшаўскага ўніверсітэта. Змест сачыненняў, як у выпадку праваслаўнай школы ў Беластоку, датычыў 100-й гадавіны БНР. Выклік, калі спалучыць Варшаву, Беласток, Нарву і Бельск, падняло каля дзвесце асоб.

Тэкст і фота **Ганны КАНДРАЦЮК**


■ Дзень Роднай мовы ў бельскай «Тройцы»

# Андрэй Сцепанюк:

## Я пад вялікім уражаннем ад беларускай паэзіі

*Стала ўжо традыцыяй, што на Міжнародны паэтычны фестываль «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова, які ладзіцца ў Менску, прыязджае хтосьці з беларускіх паэтаў Беласточчыны. Сёлета такі гонар выпаў Андрэю Сцепанюку, паэту з Бельска-Падляшскага. Алесь Аркуш пагутарыў з ім пра атмасферу фестывалю.*

**Андрэй Сцепанюк:** — Упершыню ўдзельнічаў у паэтычным фестывалі і таму хваляваўся. Хіба што ў пакоі, калі быў на з'ездзе беларусаў свету, прымаў удзел у паэтычнай вечарыне. Але была яна вельмі прыватная. Перад вялікай публікай выступаць не надаралася, асабліва калі перад табой чытаюць свае вершы такія тузы, як Арлоў, Някляеў і многія іншыя, то, зразумела, хваляванне было вялікае. Але калі паглядзеў на публіку і адчуў зацікаўленне, то стала лягчэй.

**Алесь Аркуш:** — Напэўна гэтую фестывальную атмасферу можна з чымсьці параўноўваць. Ці спадабалася такая моцная-моцная паэтычная атмасфера?

**Андрэй Сцепанюк:** — Я не хаваю, што прымаў удзел у такім фестывалі ўпершыню. Бо штораз цяжэй пабачыць, нават у Польшчы, такія фестывалі, у якіх сапраўды аграмаднае напружанне добрай паэзіі, і гэта трэба акрэсліць, галоўным чынам паэзіі беларускай, бо тут спаткаліся мы і з нарвежскай, украінскай, расейскай паэзіяй. Ёсць такі вельмі шырокі погляд. Сапраўды, напружанасць аграмадная. Бо тут, калі б хацеў чалавек усё змясціць у сябе, то яму і цела, і душы не хапіла б. Асабліва з увагі на тое, што на фестывалі выступала шмат постацяў, якіх хацелася б паслухаць, а да гэтага чыталася, а часта нават не чыталася. Гэта таксама трэба акрэсліць. Так што я пад вялікім уражаннем. Я сядзеў з адкрыты ротам, дзесьці там ззаду, каб не звяртаць не сябе ўвагу. І цешыўся, што ўсё ж такі ў гэтым годзе ўдалося мне скарыстаць з запрашэння Саюза беларускіх пісьменнікаў і паўдзельнічаць у гэтым фестывалі.




**Алесь Аркуш:** — А гэтыя вершы, якія гучалі, ці былі сярод іх адмыслова напісаныя для фестывалю?

**Андрэй Сцепанюк:** — Не. З увагі на тое, што я ўпершыню тут, я хацеў паказаць сваё найлепшае, што ў мяне за ўвесь час напісалася. Гэта галоўным чынам тыя вершы, якія знайшліся ў зборніку «Распісаны квадрат», але таксама тое, што дзесьці з'явілася падчас апошняга «Бязмежжа», затым частка з тых вершаў была надрукавана ў снежаньскім нумары «Літаратурнай Беларусі». Магчыма, мяне яшчэ раз запросяць і тады будуць і новыя вершы. Бо я часта прыязджаю з новымі вершамі на наша «Бязмежжа». Тады магчыма і ў Менск прыеду з чымсьці новым. Пакуль што проста хацеў паказаць тое, што, здавалася мне, будзе найлепшым.

Пазалетась у Беластоку выйшла першая паэтычная кніга Андрэя Сцепанюка «Распісаны квадрат», якую бельскі паэт з годнасцю прадставіў на Стральцоўскім паэтычным фестывалі «Вершы на асфальце».

**Алесь АРКУШ**
Беларускае Радыё Рацыя

# Сімвалізм знакамітага Круглага стала на выставе Паўла Грэся





Знакаміты польскі Круглы стол паходзіў з Падляшша. Шлях ад дрэва ў Белавежскай пушчы да стала, за якім вырашаўся лёс Польшчы ў 1989 годзе, адсачыў фотамастак з Гарадка Павел Грэсь. У познаньскай «Галерэі фатаграфіі pf» адкрылася выстава пад назвай «Круглы стол», складзеная амаль з дзевяноста фотаздымкаў, у тым ліку з тартака ў Гайнаўцы, дзе паўставалі дошкі для стала, і з прэзідэнцкага палаца ў Варшаве, дзе Круглы стол надалей стаіць. Адкуль такая ідэя для працы? Расказвае аўтар:

— Ідэя паўстала ў той момант, калі я даведаўся ад сяброў, што гэты стол зроблены з дрэва з Белавежскай пушчы. Нават не ведаў яшчэ, што з дубу. І тады паўстала ідэя заняцца гэтай тэмай у межах фатаграфічнага праекта. Пачаў думаць, як гэта можна зрабіць, пачытаў тое, што было даступнае, але зашмат матэрыялаў не знайшоў. І гэта было нават добра, бо я мог прааналізаваць гэты прадмет, не кіруючыся нейкімі стандартнымі схемамі думак.

Павел Грэсь кажа, што яго захапіў сімвалізм, закладзены ў круглым стале:

— Гісторыя простая. Стол выйшаў з пушчы, выйшаў ад простых, сімвалічных элементаў, якія ў мяне адразу з'явіліся ў галаве, а менавіта ад круга. Круг — гэта Месца моцы (Miejsce Mocy) у пушчы, якое ёсць і з беларускага боку, і з польскага. Гэта камяні, укладзеныя ў круг, пасярэдзіне якога знаходзіцца яшчэ адзін вялікі камень, на якім людзі пакідаюць манеты з розных краін свету, таксама круглыя. Вельмі цікава, што гэты матыў круглых рэчаў, круглых прадметаў прасочваецца ад пачатку і да самага канца. І ў гэтым для мяне ёсць энергія, па якой кожны чалавек сумуе. У сучасным свеце мала месцаў, дзе можам знайсці такую першасную энергію, а ў пушчы такое месца ёсць, ёсць магія такіх месцаў. І гэтыя месцы прыцягваюць людзей, мы шукаем праўды, вяртаемся да натуры. Магія такіх рэчаў, закрытых у круг, дае дададзеную вартасць, што пры такім менавіта стале маглі адбыцца размовы, на якія раней ніхто не спадзяваўся.

Выставу пад назвай «Круглы стол» можна наведаць у Познані да 25 сакавіка. Павел Грэсь не выключае, што гэтую выставу зможам пабачыць таксама на Беласточчыне.

Круглы стол — гэта перамовы паміж уладамі Польскай Народнай Рэспублікі і апазіцыйным прафсаюзам «Салідарнасць», якія праходзілі ў 1989 годзе. Дамоўленасці Круглага стала ў выніку прывялі да глыбокіх палітычных і эканамічных змен у краіне, да паўстання III Рэчы Паспалітай. Назва перамоў паходзіць ад самога прадмета — вялікага круглага стала, за якім і праходзілі перамовы.

**Яна ЗАПОЛЬСКАЯ**
Беларуская Радыё Рацыя
Фота: Павел Грэсь

## Будзе інтэграцыя

1 лютага на сесіі арлянскай Гміннай рады радныя прынялі пастанову ў справе намеру злучэння самаўрадавых установаў культуры — Гміннага асяродка культуры і Гміннай публічнай бібліятэкі — у адну культурную ўстанову — Цэнтр культуры і кніжкі ў Орлі.

Пастанова падкрэслівае, што злучэнне праводзіцца з мэтай эфектыўнага выканання задач гміны ў задавальненні патрэб супольнасці ў галіне культуры ды з мэтай спрашчэння структур кіравання. Пастанова будзе даслана для абмеркавання ў Краёвую бібліятэчную раду ды Падляшкую ксёнжніцу. Пастанова даручае войту, пасля атрымання меркаванняў, звярнуцца да міністра культуры і нацыянальнай спадчыны за згодай на злучэнне дзвюх установаў культуры.

Абгрунтаванне пастановы сцвярджае, што зараз ГАК і бібліятэка знаходзяцца ў асобных будынках. Арлянская бібліятэка знаходзіцца ў падвале Пачатковай школы. У адной зале, плошчай у 78 кв. метраў, месціцца чытальня і пазычальня для дзяцей і дарослых. Няма сацыяльнай і санітарнай баз. З прычыны пастаяннага залівання ападкавымі і грунтавымі водамі пануе там сырасць, а размяшчэнне ў падвале не дазваляе пранікаць туды патрэбнай колькасці дзённага святла. Трэба адзначыць, што памяшканне не прыстасавана для патрэб асоб з інваліднасцю ды цяжка туды дабрацца пажылым асобам. Такія абставіны абмяжоўваюць мясцоваму грамадству магчымасць карыстання кніжнымі фондамі бібліятэкі. Лакалізацыя ўстановы не адпавядае ўласцівым умовам працы, развіццю чытальніцтва ды вядзенню апошняй статутнай дзейнасці.

Ад сябе дадам, што ўмовы ў бібліятэцы напэўна не спрыяюць здароўю яе персаналу. Магчыма таму бібліятэкарка вельмі часта карыстаецца бальнічнымі бюлетэнямі. У 1980-х гадах бібліятэка знаходзілася таксама ў падвале «агранамоўкі» — будынка побач ветэрынарнай лячэбніцы.

Мэтава сядзіба Цэнтра культуры і кніжкі мае месціцца ў будаваным мадэрным будынку прадугледжванага зінтэграванага інавацыйнага цэнтра культурнага жыцця і чытальніцтва. Злучэнне абедзвюх установаў дазволіць аператыўна адгукацца на мясцовыя выклікі і паўплывае на арганізацыю культурнай дзейнасці, а памяшканні ў новым будынку запэўняць вышэйшы ўзровень паслуг і культурных мерапрыемстваў ладжаных на тэрыторыі гміны. Установа запэўніць насельніцтву лепшае чытальніцкае абслугоўванне даходзячы да шырэйшага круга атрымальнікаў (увядзенне электроннага каталога) ды пашырыць прапанову культурных мерапрыемстваў.

Змены дазволяць суцэльна планаваць працу ў рамках аднаго бюджэту, зніжаючы адміністрацыйныя расходы. Дазволіць гэта ўзбуйніць час працы ўстановы і такім чынам зробіць яе больш даступнай. Персанал і маёмасць абедзвюх установаў стануць адным арганізмам, што спросціць фінансава-кадравае і адміністрацыйнае абслугоўванне. Зэканоміць гэта сродкі для непасрэднай культурнай і чытальніцкай дзейнасці. Утрыманне абедзвюх установаў на вясковай тэрыторыі не знаходзіць абгрунтавання, бо іх мерапрыемствы часта дапаўняюцца і базіруюцца яны на супрацоўніцтве з тымі самімі суб'ектамі. Значыць, стварэнне адной установы прывядзе да функцыянавання на тэрыторыі гміны аднаго дынамічнага цэнтра культуры і чытальніцтва.

Да таго варта дадаць, што пасля злучэння будзе ўжо толькі адзін дырэктар установы, апошнія будуць падлеглымі працаўнікамі. Пра гэта справядліва вырашыць адмысловы конкурс.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# «Не саромся, беларус, гаманіць па-свойму»

21 лютага, Дзень роднай мовы, адзначылі ў Бельску падвойна і на шмат спосабаў. Гімназісты і вучні старэйшых класаў пісалі дыктоўкі на польскай і беларускай мовах. Праўда, польскай дыктоўкі амаль ніхто па-за самімі ўдзельнікамі не прыкмеціў. Адначасна праходзіла сустрэча, прысвечана 20-годдзю краязнаўча-навуковага часопіса «Бельскі гасцінец» і першая прэзентацыя кніжкі Дарафея Фіёніка «Ярослав Васільевіч Костыцэвіч». Увесь калідор на трэцім паверсе быў набіты моладдзю. Усё пачалося роўна ў восем гадзін раніцы, на першым школьным уроку, а гэта абазначала адно — частка яшчэ не прачнулася і выступоўцы паступоваразбуджвалі публіку. На другім уроку моладзь ужо відавочна ажывілася і талкова камунікавала. Затое беларуская дыктоўка, якая праходзіла пасля прэзентацыі, на трэцім уроку, пайшла надта гладка і спраўна.

Найстарэйшыя вучні — два другія і тры трэція класы — гімназіі пісалі фрагмент прозы Юркі Геніюша са зборніка «Маці і сын»: ... Вось жменька слоў крылатых да сонца ўзляцела... Дыктоўку павёў дырэктар белліцэя Андрэй Сцепанюк. Яшчэ да таго, як гімназісты ўзяліся пісаць дыктоўку, вядучы падзяліўся ўражаннямі ад нядаўняй паездкі ў Мінск. У сталіцы Беларусі сустрэў ён процьму маладых, якія прыйшлі паслухаць беларускіх паэтаў і празаікаў і набыць іх кнігі. Цікавасць да беларускай літаратуры сярод мінскай моладзі — як адзначыў Андрэй Сцепанюк — у трэндзе. Хацелася б нешта такое і прышпіліць на наш заспаны панадворак. Першы крок — гэта дыктоўка, якая ўсё ж застаўляе ўдзельнікаў задумацца над недахопамі...

— Мяне цешыць аднак, што на беларускую дыктоўку запісалася больш моладзі, як на польскую, — адзначае настаўніца Валянціна Бабулевіч. Праўда, у старэйшай групе пісала ажно 28 гімназістаў. Прытым частка ахвотных не магла прыйсці ў школу з-за эпідэміі грыпу. У некаторых класах з-за хваробы займалася толькі шэсцьдзесяць вучняў...

Таксама больш ахвотных на беларускую дыктоўку запісалася ў малодшых класах — тут, нягледзячы на грып, прыступіла 23 вучняў — школьнікі з пятага па сёмы клас. У гэтай групе дыктоўку павёў таксама запрошаны госць — радыёжурналіст Міхась Сцепанюк, у прыватнасці выпускнік школы. Вучні пісалі фрагмент апавядання Змітрака Бядулі: ... Не саромся, беларус, гаманіць па-свойму — на роднай мове бацькоў і дзядоў сваіх.





Настаўнікі: Іаанна Васілюк, Андрэй Мароз і Валянціна Бабулевіч



Гімназісты за дыктоўкай



Дыктоўку у пачатковых класах павёў Міхась Сцепанюк

Многія вучні ўзялі словы пісьменіка-адраджэнца да сэрца, бо ўжо пасля здачы лісткоў з дыктоўкай гаварылі словамі сачынення: Трэба ведаць нашу мову, бо так гаварылі нашы дзяды і прадзеды.

Файная, хоць гэта не зусім простая задача! Веданне роднай мовы доўгі час не было сярод нашых людзей у трэндзе ды шмат развучылася роднай мовы. Але, як кажуць, моладзь усё патрапіць! З праведзенай дыктоўкі (у надта сімпатычнай атмасферы) былі задаволены настаўнікі беларускай мовы Іаанна Васілюк і Андрэй Мароз.

Разам з дыктоўкай пачалося святкаванне 100-годдзя БНР. З гэтай нагоды калідор быў прыаздоблены бел-чырвона-белым сцягам. Настаўніца Валянціна Бабулевіч аб'явіла два святочныя конкурсы: мастацкі конкурс з Пагоняй і літаратурны конкурс, дзе вучні запішуць новыя, яшчэ не апублікаваныя ўспаміны пра Яраслава Кастыцэвіча. Хоць пра патрона бельскай «тройкі» шмат ужо сказана і напісана, на гарадзе ўсё яшчэ можна пачуць новыя і каларытныя ўспаміны пра легендарнага дырэктара.

Удзельнікаў Свята роднай мовы і гасцей надта ветліва прывітала віцэ-дырэктар школы Ірэна Яблушэўская, якая з гэтай нагоды апранулася ў народную вышыванку. Яна таксама заахвочвала размаўляць на мове продкаў і памятаць пра карані і паходжанне.

Як не цікава, самай прэстыжнай узнагародай у конкурсе была так званая nieрytka.

Што гэта такое?

Як патлумачылі ў школе — гэта дзень, калі настаўнікі розных прадметаў не выклікаюць на ўроках да дошкі адказваць. Гэта пацвярджае нараканні вучняў і бацькоў, што сучасная школа перагружана матэрыялам і задачамі.

Нас цешыць, што беларуская дыктоўка для многіх — **Адпачынак**!

**Фота і тэкст: Ганны Кандрацюк**

Пімен Панчанка

## РОДНАЯ МОВА

Кажуць, мова мая аджывае
Век свой ціхі: ёй знікнуць пара.
Для мяне яна вечна жывая,
Як раса, як сляза, як зара.
Гэта ластавак шчабятанне,
Звон світальны палескіх крыніц,
Сінь чабору, і барвы зарніц,
І буслінае клекатанне.
Калі ж хто загадае: „Не трэба!" —
Адрачэцца ад мовы народ, —
Папрашу я і сонца, і неба:
Мне не трэба ні славы, ні хлеба,
Асудзіце на безліч нягод.
Толькі месяцаў назвы пакіньце,
Назвы родныя роднай зямлі,
Пра якія з маленства ў блакіце
Бор шуміць і пяюць жураўлі:
Студзень — з казкамі снежных аблокаў,
Люты — шчодры на сіні мароз,
Сакавік — з сакатаннем і сокам
Непаўторных вясновых бяроз,
Красавік — час маланак і ліўняў,
Травень — з першым каханнем, сяўбой,
Чэрвень — з ягаднаю зарой,
Ліпень — з мёдам,
З пшаніцаю — жнівень,
Спелы яблычны верасень,
Светлы кастрычнік
У празрыстасці чыстай, крынічнай,
Лістапад — залаты лістапад,
Снежань — першы густы снегапад...
Ці плачу я, ці пяю,
Ці размаўляю з матуляю —
Песню сваю, мову сваю
Я да грудзей прытульваю.

# Мой герой — беларус!

## Конкурс на 100-годдзе БНР

Дарагія сябры! Набліжаецца 25 Сакавіка — Свята Волі, дзень, які адзначаюць тысячы беларусаў у цэлым свеце. У нас, на Падляшшы ўкаранілася традыцыя святкавання. Пра свята гаворым на ўроках беларускай мовы і на школьных лінейках, у сям'і і на мастацкіх мерапрыемствах.

Каб годна і творча адзначыць сотую гадавіну абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе, мы прыдумалі для вас святочны конкурс. Вашай задачай будзе напісаць твор на тэму:

**МОЙ ГЕРОЙ — БЕЛАРУС!**

Падумаеце — хто такі можа стаць вашым героем?

Перад вамі шырокі выбар і неабмежаваныя магчымасці:

— вашым героем можа стаць тата, брат, мама, сястра, дзед, цёця, бабуля ці іншы сваяк або любы знаёмы...

— настаўнік, мастацкі інструктар, апякун праекта...

— гістарычны персанаж, пісьменнік, грамадскі дзеяч, журналіст, мастак...

— ваш любімы літаратурны герой...

— ваш сябра або сімпатыя...

Конкурсныя працы можаце напісаць у форме верша, апавядання або журналісцкіх жанраў — рэпартажа, фельетона, эсэ, інтэрв'ю.

Працы будуць ацэнены адмысловай камісіяй, якая назначыць супер-файныя ўзнагароды — веласіпед, беларускія кніжкі і CD з беларускай музыкай, запрашэнне на журналісцка-мастацкія майстар-класы Сустрэчы «Зоркі».

Конкурсныя працы дасылайце да 1 мая 2018 года.

Конкурс прадбачаны для вучняў пачатковых школ і гімназій. Не адкладвайце задачу, пачніце думаць, рыхтавацца і пісаць ужо сёння.

**Ганна Кандрацюк**



Першая злева Паўліна Ёдла

Паўліна Ёдла,
бельская «тройка»

## Доўга я зіму чакала...

Доўга я зіму чакала,
Выглядала дзень і ноч.
Дзе гэты снег?
Дзе той мароз?
Падыходзяць нашы святы...
Думала, будзе снег,
Дзед Мароз на санях прыедзе,
Елка ў снезе стане нам.
Я чакала і чакала,
Глядзела ў акно.
А там усё чорна,
А там усё шэра, сумна.
Аднойчы я ўстала,
Нідзе не гляджу.
Сястра мяне кліча:
На лыжы іду!

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Асёл у ільвінай шкуры

Адзін асёл не быў задаволены сваім лёсам і ён прыкінуўся драпежным ільвом. Ён накінуў на сябе львіную шкуру і здалёк напалохаў статкі кароў і авечак, што спакойна пасвіліся на зялёным мурагу. Калі ён набліжаўся да статка, звярына падрывалася на ногі і ратавалася ўцёкамі. Падроблены леў рагатаў, а яго смех сапраўды напамінаў ільвіны рык.

Аднойчы, калі асёл падбег да спалоханага статка, узняўся моцны вецер і здзьмуў з яго ільвіную шкуру. Звяры зразумелі ашуканства, затупаталі нагамі і талакой накінуліся на асла. Каровы баролі рагамі, авечкі таўклі па нагах і здзекліва бляялі з яго адвагі.

Такі суджаны канец усім аслам, якія прыкідваюцца ільвамі!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

## УВАГА КОНКУРС! № 09-18

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 11 сакавіка 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Па сцяжыне, па дарозе
Бегчы я ў іх не ў змозе
і па снезе не ідуць,
лёд убачаць — і лятуць!
К.....**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 5-2018: мядзведзь.**

**Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Алюўка Порац, Карнэлія Вшэбароўская з Нарвы, Кацярына Сурэль, Вікторыя Баркоўская з Арэшкава, Аляксандра Весялоўская, Зузя Скрабская, Іаанна Нікіцюк з Бельска-Падляшскага, Ася Пяткевіч, Эмілька Калодка, Анастасія Шэрэмэта са школы Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**

# Польска-беларуская крыжаванка № 09-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 5-2018:**

Мароз, пас, дар, торт, плот, ты, клас, ліст, но, люты, ануча, мох, маг, хутар. Там, матыў, на, ар, луг, ключ, пліта, ласы, тост, пот, гот, ар, стымул.

Узнагароды: ***каляндар «Не маўчы па-беларуску»*** выйграла **Эля Лісоўская** з Нараўкі; ***кніжку Дар'і Вашкевіч «Баваўняная дзяўчынка»* — Магдалена Сарнацкая** з Бельска-Падляшскага; ***кніжку Свэна Нурдквіста «Калядная каша»* — Якуб Аврарчук** з Арэшкава; ***кніжку Вольгі Гапеевай «Смачны суп»* — Павел Жданук** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку; ***веласіпедныя маршруты ў рэгіёне Белавежскай пушчы* — Анна Кендысь** з ПШ № 1 у Гайнаўцы; ***«Беларускую маляванку»* — Мая Тапалянская** з Нарвы; ***кніжку «Даведнік аматара Белавежскай пушчы»* — Юлія Балеста** з Бельска-Падляшскага; ***кубак «Беларускі сімвал зямлі»* — Аліўка Жэпко** з Нарвы. Віншуем!



# Тэатральныя запусты ў БДК



Падчас тэатральных запустаў, якія 12 лютага арганізаваў Бельскі дом культуры, публіку захапілі малодшая і старэйшая абрадавыя групы тэатральнага калектыву «Антракт» і тэатр сеніёра «Рэтра», з якімі займаецца дырэктар БДК і заадно тэатральны інструктар Альжбета Фіёнік. Па-акцёрску выступілі і зацікавілі публіку таксама дзеткі з неабрадавай групы «Антракта», з якімі з восені мінулага года працуе акцёр, рэжысёр і зараз таксама тэатральны інструктар БДК Іаанна Стэльмашук-Троц. Калі мянялася сцэнічнае афармленне на сцэне, члены тэатральных груп перад заслонай займальна дэкламавалі вершы. Тэатральная сустрэча, якая была падвядзеннем вынікаў тэатральнай работы ў БДК на працягу апошняга года, адбывалася ў сырапусны тыдзень, які называецца таксама масленіцай. Усіх удзельнікаў спаткання, акцёраў і публіку, запрасілі на пачастунак.



■ Па-акцёрску запрэзентаваўся тэатральны калектыў «Антракт» з пастаноўкай «Рэкруты»



■ Дырэктар Альжбета Фіёнік за тэатральную працу атрымала адмысловы падарунак, які ўручыла ёй кіраўнік па справах мастацкай адукацыі БДК Марыя Бабулевіч

Больш за дваццаць гадоў з тэатральным калектывам «Антракт» займаецца Альжбета Фіёнік, якая яго заснавала і да восені мінулага года арганізавала працу калектыву ў трох узроставых групах. «Антракт» вельмі паспяхова прэзентаваў народныя абрады «Вяселле», «Хрысціны», «Рэкруты», «Сенакосы», «Жніво», «Калядаванне», ці «Шчодры вечар». Аднак хіба найбольш разоў тэатральны калектыў выступіў з пастаноўкай «Бежанства». Свой абрадавы рэпертуар «Антракт» прэзентаваў у час агляду «Беларускі абрад на сцэне», «Звязда і калядка», якія арганізуе БГКТ і ажно сем разоў займаў першыя месцы ў Ваяводскім аглядзе вясковых і абрадавых тэатраў у Ломжы, паказваючы там беларускі фальклор. З верасня мінулага года Альжбета Фіёнік стала дырэктарам Бельскага дома культуры, але не адмовілася займацца з маладымі акцёрамі абрадавых груп «Антракта» і старэйшымі акцёрамі тэатра сеніёра «Рэтра».

— Мы тут падводзім вынікі нашай дзейнасці на працягу апошняга года і прэзентуем усе формы тэатральнай дзейнасці «Антракта» і «Рэтра», — заявіла дырэктар БДК Альжбета Фіёнік.

Прэзентаваннем нашых абрадаў і фальклору займаецца ў Бельску-Падляшскім таксама Анна Фіёнік і яе Студыя фальклору «Жэмэрва».

— Некалькі асоб з «Антракта» займаецца і ў «Жэмэрве». Я прыйшла паглядзець іх выступы, — заявіла Анна Фіёнік.

Дэкламацыя з'яўляецца важнай часткай дзейнасці «Антракта» і тэатра сеніёра «Рэтра». Займальна па-беларуску і на іншых мовах дэкламавалі ў час запустаў Уладзімір Весялоўскі і вучні бельскага тэатральнага калектыву. Аднак сустрэча пачалася з займальнага калядавання наймалодшых дзетак у форме абрадавай пастаноўкі. Прыйшлі яны калядаваць да сям'і малога дзіцяці. У абрадавай пастаноўцы ўдала выступілі таксама члены тэатра сеніёра «Рэтра» і дырэктар Альжбета Фіёнік. Яна ўдакладніла, што з калядаваннем «Антракт» і тэатр Сеніёра «Рэтра» выступілі на сцэне ў перыяд святкавання Раства Хрыстовага. Па-акцёрску з пастаноўкай Агнешкі Асецкай «Пантафліска» выступілі дзеткі з малодшай групы «Антракта», з якім займаецца Іаанна Стэльмашук-Троц.

— Я займаюся з малодшай групай «Антракта» з лістапада мінулага года і прадаўжаю працу, якую вяла з гэтай групай Альжбета Фіёнік. Мы гуляем у тэатр, а дзеткі вучацца, як іграць на сцэне. Хаця было мала часу, рашылася я падрыхтаваць з дзеткамі пастаноўку Агнешкі Асецкай «Пантафліска», у якой яны маглі праявіць свае акцёрскія здольнасці і добра гуляць. Сёння было прэм'ернае выступленне з «Пантафліскам» і лічу яго ўдалым. Апошнім часам вяртаецца мода гуляць у тэатр і дзеткі ў Бельску хочуць спраўдзіць свае тэатральныя здольнасці. Тэатральная актыўнасць пенсіянераў гэта добрая з'ява, якая ўкладаецца ў рамкі агульнага зацікаўлення тэатрам, — сказала Іаанна Стэльмашук-Троц.

— Мы выступілі на сцэне ў ролі дзетак, якія прыехалі да сваёй цёці на адпачынак, а там няма ні тэлевізара, ні смартфона. Тады з прымяненнем старой вопраткі, якую знайшлі ў куфрах, рашаемся запрэзентаваць аповед, які пачулі ад цёці. Прэзентуючы цёцін расказ, мы добра гуляем на сцэне, — гаварылі выканаўцы спектакля «Пантафліска».

Тэатр сеніёра «Рэтра» выступіў з пастаноўкай, да якой сцэнарый напісала Альжбета Фіёнік.

— Падзеі адбываюцца ў вагоне. Сцэнарый да пастаноўкі напісала я на падставе матываў з некалькіх расказаў Антона Чэхава. З гэтай пастаноўкай тэатр сеніёра «Рэтра» выступае ўжо ад нейкага часу. З неабрадавай групай «Антракта» паспяхова займаецца Іаанна Стэльмашук-Троц. З калектывамі займаюся надалей і застануся пры гэтым, бо вельмі люблю тэатральную актыўнасць, якой у БДК я прысвяціла больш за дваццаць гадоў, — сказала Альжбета Фіёнік.

У канцэртнай зале БДК сабралася многа людзей, частка якіх спецыяльна прыйшла паглядзець новую пастаноўку «Рэкруты». Такое абрадавае прадстаўленне паказвалася першай групай «Антракта» дзесяць гадоў таму. Тады адну з галоўных роляў выконвала Юліянна Дораш, якая некалькі гадоў пазней, ужо як прафесійная акцёрка, выступала на бельскай сцэне ў дуэце з Іааннай Троц. Цяпер галоўныя ролі ў «Рэкрутах» выконвалі Максім Фіёнік і Інэса Гапонюк.

— Я яшчэ памятаю, як паказваліся на сцэне першыя «Рэкруты». Тады было мне можа гадоў чатыры і я яшчэ мала што разумеў з гэтага прадстаўлення. Нават цяпер думаў, што рэкрутаў бралі ў царскую армію можа на гадоў дванаццаць. Даведаўся, што калі рэкруты пражылі войны, то вярталіся дамоў толькі пасля дваццаці пяці гадоў службы. Аднак яшчэ і ў такім узросце жаніліся і выхоўвалі дзетак. Мне трэба было ўвасобіцца ў лёс такога хлопца, хаця гэта ўсё зараз складана ўявіць. Аднак я на сцэне адчуў атмасферу складанага жыцця хлопца з вёскі, якога бралі ў рэкруты і ў якога дома заставалася каханая дзяўчына, — сказаў здольны акцёр Максім Фіёнік, які раней удала выступаў у іншых тэатральных пастаноўках і мнагакратна перамагаў на дэкламатарскіх конкурсах, у тым ліку на «Родным слове».

Максім, Ілья і Таіса — дзеці дырэктар Альжбеты Фіёнік. Усе яны ўмела запрэзентаваліся падчас запустаў у пастаноўках «Антракта».

— Я старалася на сцэне адчуць тое, што адчувае дзяўчына, калі забіраюць яе каханага хлопца ў рэкруты. Падчас выступу паявіўся ў мяне вялікі смутак з-за разлукі з хлопцам, якога высылалі ў армію на многія гады, — заявіла Інэса Гапонюк, якая асабліва добра адчувае сябе на сцэне ў абрадавых пастаноўках. Яна ўмела выступае ў тэатральным калектыве «Антракт» і займальна спявае ў студзіводскай «Жэмэрве», у якой выступаюць таксама яе сябры па «Антракце» Максім Фіёнік, Уршуля Алексяк і Данель Саўчук (умела іграў войта ў «Рэкрутах»). Астатні прыязджае на рэпетыцыі «Антракта» і «Жэмэрвы» ажно з Вілінава Мельніцкай гміны Сямятыцкага павета.

— Я люблю нашы абрады, беларускую культуру і мне важныя выступы са сваімі песнямі і танцамі, — сказаў Данель Саўчук.

— Паўліна Нямыйская вельмі эмацыйна выступіла на сцэне ў ролі маці рэкрута і калі яго блаславіла на выезд у армію, то складана было ёй стрымаць слёзы і сапраўды расплакалася на сцэне.

— На сцэне я адчула атмасферу, калі мама адпраўляе сына на доўгую пабыўку ў войска. Не магла я стрымаць слёз і расплакалася. Вельмі эмацыйна мы ангажаваліся, калі цяпер упершыню выступілі з пастаноўкай «Рэкруты» перад бельскай публікай, — заявіла Паўліна Нямыйская, якая, так як і многія ўдзельнікі старэйшай абрадавай групы «Антракта», з'яўляецца вучаніцай Бельскага белліцэя.

З размовы з удзельнікамі малодшай групы «Антракта» аказалася, што ў ёй выступаюць пераважна вучні бельскай «тройкі». Аляксандра Зінкевіч, Малгажата Мацкевіч, Ганна Філіпюк і Уля Алексяк, якія ўдала ігралі сябровак маладога рэкрута, заявілі, што некалькі дзён назад абрадавая група «Антракта» выступіла ў Ваяводскім аглядзе вясковых і абрадавых тэатраў у Ломжы і чарговы раз заняла першае месца. На гэты раз «Антракт» выступіў у Ломжы з абрадам «Выезд маладой да шлюбу», з якім прэзентаваўся апошнім часам перад публікай, побач пастаноўкі «Дзённік Веры». Падчас прэм'ернай прэзентацыі «Рэкрутаў» удала выступілі таксама члены тэатра «Рэтра».

— Мы патрэбныя для «Антракта», бо іграем ролі старэйшых персанажаў. Хочацца выступаць у пастаноўках тэатра сеніёра «Рэтра» і хочацца таксама дэкламаваць па-беларуску, а няхай публіка ацэньвае нашы ўмеласці, — гаварыў Уладзімір Весялоўскі з тэатра «Рэтра», саставаральнік хору «Васілёчкі», актыўны яго член і адзін з галоўных герояў абрадавай групы «Васілёчкаў».

— Наша тэатральная інструктар Альжбета Фіёнік, а зараз дырэктар Бельскага дома культуры, ад асноў навучыла нас як правільна трэба гаварыць і хадзіць па сцэне, як перадаваць эмоцыі герояў пастановак. Яна вучыць нас таксама правільнаму дэкламаванню. Веды і ўмеласці, якія здабываем на сцэне, выступаючы ў тэатры «Рэтра», мы выкарыстоўваем у абрадавай групе хору «Васілёчкі», — сказала кіраўнік «Васілёчкаў» і член тэатра «Рэтра» Ніна Бялецкая.

У тэатральнай групе Іааннны Стэльмашук-Троц вылучаўся Мікола Троц. Разам з сястрой Меланіяй выступаў ён у фільме Юрыя Каліны «Бежанцы. 1915-1922», аб чым заявілі яго бацькі Магдаліна і Марк Троц. Паразмаўляў я яшчэ з Мартынай Гераз, якая ўдала іграла ў «Пантафліску» і Галенай Катэльчук, што займальна дэкламавала па-беларуску. Сказалі яны, што заняткі з Альжбетай Фіёнік і Іааннай Троц вельмі цікавыя. Выступы маладых і старэйшых акцёраў добра ўспрыняла таксама публіка. Дырэктар БДК Альжбета Фіёнік падзякавала ўсім акцёрам за добрую ігру на сцэне, уручала ганаровыя граматы і падарункі, а асабліва падзякавала новай тэатральнай інструктарцы Іаанне Стэльмашук-Троц. Сама дырэктар Альжбета Фіёнік за тэатральную працу атрымала адмысловы падарунак, які ўручыла ёй кіраўнік па справах мастацкай адукацыі БДК Марыя Бабулевіч. Паколькі сустрэча адбывалася ў сырапусны тыдзень, усіх выступоўцаў і публіку запрасілі на пачастунак.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Залатыя пёры ў Гарадку

— Што так блізка дзвярэй селі? — пытаюся ў Яна Федзюкевіча, настаўніка-пенсіянера з Гарадка, які доўгія гады дырэктарстваваў школе ў Баброўніках, што збоку засеў за доўгім, паўкруглым сталом у канферэнцыйнай зале Гарадоцкага цэнтра культуры — Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага. Сабралася поўная зала ўдзельнікаў конкурсу «Кожны пісаць можа», арганізаванага Гарадоцкай гмінай, які праз гады стаў папраўдзе агульнапольскім.

— А, гэта таму, што калі напісаў я кепскі верш, дык хутчэй уцяку! — смяецца пажылы аўтар перш за ўсё сатырычных твораў. — А такі верш можа крануць за жывое, хаця для смеху ён напісаны.

А ў спадара Федзюкевіча ёсць і вострыя палітычныя вершы, але пра іх гаварыць не будзем! А пакуль пачнецца літаратурны конкурс у дзень святога Валянціна, у запоўненай з берагамі зале — гоман як на рынку. Поўна тут сяброў і саміх паэтаў, а рэй водзяць «Але Бабкі» са Случанкі, Валіл-Двара, што прыбылі сюды са сваёй паэткай і матацыклісткай бабуляй ужо Аняй Садоўскай. У Ані — новыя вершы, а найбольш сёння пра каханне — пра любоў да свайго файнага мужа, які таксама прысутнічае на свяце. А ёсць тут таксама і наймалодшае пакаленне — унучак Мікалай спадарыні Крысціны Кандрусік з Гарадка будзе падтрымліваць ёй сшытак, калі будзе чытаць запісанае ў ім сваё пераможнае вясёлае і сапраўднае апавяданне па-беларуску. Зала ўпрыгожаная як і належыць у дзень закаханых, у сэрцы і кветкі, але самыя прыгожыя тут квяціста таленавітыя ўдзельнікі, рознага ўзросту і вопыту, таксам жыццёвага. Відаць добрую групу з Дому апекі ў Ялоўцы, якая зноў далучылася да конкурсу са сваімі тэкстамі і выступіць сёння па-майстэрску са сваімі творамі перад публікай...

— Няма ў нас нікога хто прайграў, — адзначыў дырэктар ГЦК Юрка Астапчук. — Усе хто раскрыў свае сталы, куды пісалі некаторыя свае творы, і даслаў свае тэксты на агляд, ужо ў выйгрышы. Спадзяюся, што ў наступныя гады павялічыцца яшчэ група тых, хто адважыцца паказаць свае найглыбей схаваныя і ўжо выказаныя словы.

— У адзінаццатым выпуску конкурсу «Кожны пісаць можа» прыняло ўдзел больш удзельнікаў, чым у мінулым, юбілейным выпуску, — кажа Дарота Сульжык, старшыня журы. — Конкурс развіваецца, мае сваю стабільную традыцыю, дык трэба яго працягваць. Ёсць каму пісаць, бо як сказаў калісь Адам Сяменчык з Гарадка, пісьменнік, які цяпер пражывае ў Лондане, на Гарадоччыне заўсёды было і ёсць шмат пішучых асоб — «вялікая шчыльнасць на квадратны метр», калі б іх палічыць. І хіба гэта праўда. Конкурс гэта даказвае. На сёлетні конкурс прыслала свае тэксты васямнаццаць асоб. Бачыцца рост ліку ўдзельнікаў сярод дарослых асоб. На жаль, менш дзяцей адважылася прысылаць свае тэксты, хаця ведаем, што пішуць і маюць што паказаць. Пастараемся над гэтым папрацаваць. Сёлета толькі адна вучаніца сёмага класа паспела даслаць свой тэкст. Затое штораз больш пішуць дарослыя, спелыя асобы. Ёсць аўтары, якія дасылаюць свае тэксты ад пачатку конкурсу, ёсць такія, што ад мінулага года. Зноў азваўся спадар Зянон Свянткоўскі, які свае тэксты друкуе ў «Паранным кур'еры». Пані Галена Данік прыслала свае творы першы раз. «Гэта праз сына — ён мяне так urządził!» — Спадар Рыгор Ціунчык — «новая свежая кроў» сярод гарадоцкіх паэтаў. Цешымся, што зноў далучыліся да нас творцы з Ялоўкі ў Міхалоўскай гміне — прыслалі свае тэксты і грамадой прыехалі на свята. Цешымся, што конкурс перакрочыў межы Гарадоцкай гміны. Ёсць аўтары з Кракава, з Лап, з Варшавы, з Велішэва. Ёсць асобы, якія ўвогуле не маюць дачынення да нашай гміны, пра конкурс даведаліся з інтэрнэту. Задумваліся мы нават, ці не ахапіць у нашым конкурсе толькі жыхароў нашай гміны, таму што яго задачай з'яўляцца прасоўванне і падтрымка нашых, мясцовых творцаў ці родам ад нас ці па-суседску... У наступным годзе вылучым таксама дзве катэгорыі — творы напісаныя па-польску і па-беларуску ды на мясцовай гаворцы. Варта пісаць таксама прозу. Творы будуць друкавацца ў «Гарадоцкіх навінах». Вершаў у конкурсе заўсёды больш, але прыйшло таксама шмат апавяданняў, карацейшых і даўжэйшых. Варта пісаць. Тады чалавек выяўляе сваю ўражлівасць, задумваецца над тым, што навокал, што ў самім чалавеку, у яго нутры. Варта гэта ўвабраць у словы, а пасля паказаць яго іншым. Узровень тэкстаў сёлета быў вельмі высокі. Журы атрымала тоўстыя папкі з творамі. Было над чым разважаць, чытаць цікавае і прыгожае. Узнагароды (для лаўрэатаў пёры-аўтаручкі «Паркер» і іншыя прэзенты) фундавалі Гарадоцкі цэнтр культуры і Таварыства сяброў Гарадоцкай зямлі, якое рыхтуе да друку другі зборнік твораў гарадоцкіх аўтараў «Жыццём пісанае». У новым томе апынуцца, апрача твораў незабыўных Ніны Цыванюк, Кастуся Казлоўскага і Надзі Дудзік таксама вершы і проза лаўрэатаў конкурсу «Кожны пісаць можа».

Першае месца здабыў твор Крысціны Кандрусік на беларускай мове «Язда на свінні», забаўная сапраўдная гісторыя мінулага, напісаная па-майстэрску, з гумарам і дынамічнасцю. Другі лаўрэат — Дар'юш Жукоўскі, гарадчанін з роду, аніматар культуры з Велішэва, «найбольшы мясцовы патрыёт», які напісаў верш «Мая польска-руская Маці». Трэці лаўрэат — Янук Грыцук з Гарадка за верш «Marsz nieustający». Янук Грыцук, вядомы сатырык, стварае найбольш «палітычных» вершаў, у якіх каменціруе рэчаіснасць. Журы прызначыла некалькі спецыяльных вылучэнняў — Марку Шчарбінскаму з Кракава, Яну Карповічу з Гарадка за апавяданне "Заблудзіў", Анатолю Парэмбскаму са Станцыі Валілы за верш «Чалавекам будзь», Галене Данік з Гарадка за верш «Гісторыя» (дэбют) і Яну Федзюкевічу з Гарадка за верш «Слаўны Гарадок». Вылучаны: Зянон Свянткоўскі з Гарадка, Анна Садоўская з Валіл-Двара, Крыстына Саўка з Ялоўкі (родам з Лукі), Густаў Мішталь з Меляшкоў, Барбара Лапінская з Лап, Галіна Бжазоўская з Гарадка, Анна Кокат з Пшэзьмерова, Тамаш Бараноўскі з Ялоўкі. Усе прысутныя аўтары прачыталі перад публікай свае вершы. Вялікае ўражанне выклікала ўражлівая дэкламацыя доўгага верша пра затопленую Луку Хрысціны Саўкі і верша Тамаша Бараноўскага з ДГА ў Ялоўцы, выдатнага акцёра і аўтара. Творы пра каханне (гэта ж пад Дзень закаханых!) шоўменкі Ганкі-Рыфмаванкі (Анны Садоўскай) з Валіл-Двара і спеў Янкі Карповіча пад гітару закончыў літаратурны вечар у Гарадку марозным, але з цёплымі сэрцамі і словамі.

Тэкст і фота **Міра ЛУКША**

**Дар'юш ЖУКОЎСКІ**

## Гарадок

Я ўжо даўно не бачыў скрыпача на нашым даху.
(Я заўжды задаваўся пытаннем, як ён туды ўзбіраўся).
Калісь размаўлялі мы часта,
Я падымаўся па лесвіцы на гарышча,
Праз акно бачыў больш.
Ён быў ужо там,
Распавядаў мне пра свае праблемы з дзецьмі,
Што сям'я — найвышэйшая каштоўнасць і гэта яна стварае традыцыю.
Я распавядаў яму пра свае дзіцячыя праблемы.
Цяпер я хацеў спытаць яго,
Ці Цэйтла і Мотал дабраліся ў Варшаву?
Ці Хава і Федзька — у Кракаве,
Ці Шпрынца і Білка апынуліся ў Амерыцы?
Як адчувае сябе жонка Голда?
Ці доктар Леў Цукерман прапісаў ёй нешта на пазваночнік?
(Цукерман добры лекар!)
Ці аптэкар Шукляпэр меў гэтыя лекі?
Ці Эбштайн добра навучыў дзяцей габрэйскай мове?
Ці Ёсэф Абраміцкі зрабіў прыгожыя фатаграфіі для пашпарта?
А хто пашыў вам адзенне на дарогу — Фідэль ці Гарбер?
А абутак Едваха ці не ціснуў?
А гадзіннік Файнзіберга працуе да сёння?
Ці памятаеце апошні спектакль «Мірэлэ Эфрос»,
Дзе ігралі акцёры: Шасана, Шэмэн, Чыжыцкі, Валінская, Раф і іншыя?
Як было на вяселлі Любы Янушкевіч і Моталя Морайна?
Заўтра ўзбяруся на дах гэтага дома,
Сяду ля цёплага, пабеленага коміна
І зайграю на скрыпцы ўсім вам:
«То світанак, то змрок,
То світанак, то змрок
І ўжо столькі зім і лет
Нешта нараджаецца і нешта мінае
Ды застанецца ад нас след».

# Засталіся адно ўспаміны (36)

Вулька-Выганоўская, што ў Арлянскай гміне, лічылася для кіношнікаў адной з лепшых вёсак. А гэта таму, што людзі хлынулі на кінасеансы быццам мухі да ліпучкі. Не страшны нам былі ні веснавое разводдзе, ні зімовыя мяцеліцы. Мы заўжды намагаліся дабрацца ў сяло на сустрэчу з сімпатычнымі і добразычлівымі жыхарамі. Кінасеансы дэманстраваліся ў будынку школы. Глядзельная зала была невялікая. Па супрацьпажарных правілах была яна зарэгістравана на пяцьдзясят пяць гледачоў. На прысутнасць мы не скардзіліся. Кожны раз збіралася амаль норма гледачоў, а на вядомыя гіты прыходзіла іх намнога больш.

У школе працавала сем штатных настаўнікаў: Оля Карпюк, Оля Ігнацюк, Марыся Хрэн, Надзя Шатыловіч, Ніна Васілеўская, Валя Жменька і адна разынка мужчынскага роду Гаўрылюк (імя не запамяталася). Кіраўнічкай была мясцовая Оля Карпюк. Жыла яна з мужам Янкам, вядомым у наваколлі краўцом. Ігнацюкі, Ольга з Аляксандрам, якога сябры клікалі Санем з Дыдуль, жылі ў школе на паддашку. Аляксандр па прафесіі быў краўцом, шыў шыкарныя кажухі. Не ведаю адкуль Марыся Хрэн выходзіла. У школе яна пачала працаваць першай з дзяўчат і навучала музыцы ды спевам, цудоўна іграла на акардэоне. Надзя — мая зямлячка, выходзіла з-пад Чаромхі. Ніна Васілеўская, родам з Войшкаў, пачала працу ў Вульцы ў 1964 годзе, а Валя выходзіла з Вулькі, што каля Орлі. Усе чатыры былі незамужнімі. Стварылі яны цудоўны вакальна-музычны квартэт. Я з першых дзён прафесійнай працы ў Ваяводскім праўленні кіно пазнаёміўся з волянскімі прыгажунямі. Злучала нас песня. Шмат вольнага часу мы праводзілі ў школьнай зале і спявалі пад гукі Марысінага гармоніка.

Добрыя адносіны ладзіў я не толькі з настаўнікамі. Маімі сябрамі сталі Саня Ігнацюк і Янка Карпюк, мясцовы солтыс Аляксандр Гаўрылюк, якога штодзень клікалі Шуркам Фамічом. Ягоная жонка, Вольга, выходзіла з Дабрывады, нотабена з роду Сідарукоў. У іх было трое дзетак: найстарэйшы Мікалай быў музыкантам, затым былі Валя і самы малодшы Славік. Тут у час прабывання ў Вульцы-Выганоўскай я знайшоў сваю прыстань, прыходзіў на абеды і начлег. Кінамеханік Алік Чарнянін сталаваўся ў Васілеўскіх, якія жылі побач школы. Шафёр Уладэк Скепка пасля кінасеансаў падаваўся ў Сакі, дзе пражываў на калёніі з жонкаю ў цесця Дубінскага. У Вульцы я ладзіў таксама сяброўскія адносіны з Юркам Астапчуком, які з матуляй пражываў непадалёк мясцовай крамы, з Міхасём Старчэўскім. Часта мы збіраліся ў кампаніі ў Юркі Астапчука з Міхасём пры піве. Да гэтай кампаніі далучаўся нежанаты Алёша Астапчук, суродзіч Юркі, заадно братуха Васіля, мясцовага лесніка. Заўзяты ён быў кінаман. У Вульку-Выганоўскую на кінасеансы прыходзіла шмат жыхароў з суседніх Москаўцаў. Але аб гэтым у наступным допісе.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

# Сейбіткі народнай песні

Гартаючы падшыўку сваіх ніўскіх допісаў, трапіў я на занатоўку „Святочны вечар" („Ніва" ад 4 снежня 1976 года), у якой пісаў я аб мерапрыемстве ў клубе „Каленяж" у Чаромсе, прысвечаным 60-й гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. Пасля афіцыйнай часткі выступілі „Каласкі". Падыгрываў ім Сцяпан Копа. Канферанс вёў Янка Крупа. Пазней я неаднойчы сустракаўся з „Каласкамі" ў Кляшчэлях і ў Чаромсе на імпрэзах. Састаў „Каласкоў" тады ўжо папоўніла вядомая пявуння і заадно акампаніятарка Ала Каменская, нотабена, дачка Любы Гаўрылюк, якія цяпер жывуць у Козліках. З сеніёркай Любай я пазнаёміўся раней — пры канцы пяцідзясятых гадоў, калі працаваў інструктарам у Гайнаўскім аддзеле БГКТ.

А нагода для чарговай сустрэчы з гэтым цудоўным дуэтам, маці з дачкою, трапілася 18 красавіка 2012 года ў Чаромсе. Ваяводскае праўленне Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў арганізавала Раённы агляд мастацкіх калектываў. Удзельнікамі мерапрыемства быў таксама гурт „Рэчанька" з Козлікаў. На ўступе гурт запрэзентаваў вянок народных песень. Пад акампанемент гармоніка паплылі лірычныя песні пра каханне і навакольную прыроду. Лідарам гурту з'яўляецца Ала Каменская. На развітанне Ала сказала: «„Рэчанька" прыплыла ў Чаромху і зараз адплывае». Пасля выступаў журы прыступіла да ацэнкі. У тым часе пачалася супольная забава.

У перапынках паміж танцамі спявалі супольна „Вульчанкі" з „Нараўчанкамі" ды пявуннямі з Козлікаў ды іншымі выканаўцамі. А калі адазваліся зноў музыкі, дык Люба Гаўрылюк, адзінокая, быццам матылёк, кружылася па зале і заахвочвала ўсіх да танца. Такія вось нашы сейбіткі роднай песні з Козлікаў.

Зараз мы з Алай Каменскай лічымся сябрамі па фейсбуку ў адной групе. Я цешуся вельмі, што магу падтрымаць знаёмства шматгадовай даўнасці.

Уладзімір СІДАРУК




## http://project.szlachtycz.by

У адным з папярэднім нумароў „Ніва" пісала пра прыватны тэатр у Беларусі, які мае назву „Захаранка Арт-груп" і свайё творчасцю прапагандуе шляхецкія традыцыі. Праўда, аднымі тэатральнымі пастаноўкамі дзейнасць аматараў шляхецкай даўніны беларусаў не абмяжоўваецца. Сведчаннем гэтаму сайт у інтэрнэце „Шляхецкая спадчына Беларусі". Месціцца ён па адрасе **http://project.szlachtycz.by** і лічыцца культурна-адукацыйным праектам.

„Асновай праекта сталі напрацоўкі ў рэчышчы вывучэння і адраджэння старадаўняй беларускай шляхецкай культуры і захапленне ёю аматарамі з творчага аб'яднання „Шляхецкі тэатр «Захаранка Арт-груп»". За час існавання арт-групы мы назапасілі дастаткова гістарычных і культурных здабыткаў, каб можна было на іх аснове захапляльна, цікава і знешне зусім не акадэмічна распавесці цікаўным — і дзеткам, і дарослым — пра самае лепшае з таго, што пакінула нам у спадкаемства арыстакратычная мінуўшчына нашай зямлі. У пэўны момант стала зразумела, што мы маем такі культурна-адукацыйны прадукт, з якім можна рушыць насустрач любой аўдыторыі, каб з аднаго боку дапамагчы людзям нясумна правесці час, а з другога — расказаць і паказаць тое з нашай гісторыі, пра што, на жаль, пакуль што мала дзе можна пачуць, а тым болей убачыць на свае вочы", — распавядаецца на галоўнай старонцы сайта. Аматары даўніны разам са сваімі аднадумцамі, якімі выступаюць Нацыянальны гістарычны музей Беларусі і турыстычная кампанія „Бьюці-тур", лічаць, што беларусам трэба даводзіць — яны нашчадкі не толькі нейкіх сялян, але ж і шляхты.

Калі праект быў запушчаны ў маі 2016 года, то пра яго распавялі шматлікія беларускія медыя. „Гэты праект павінен абудзіць самасвядомасць беларусаў, паказаць ім, што ў нас вельмі багатыя традыцыі, вельмі цікавыя традыцыі, якімі мы можам ганарыцца, якія трэба развіваць і пра якія трэба памятаць", — казала ў каментарыі Радыё Рацыя вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Дар'я Астрагаловая.

Пасля амаль двух гадах цяжка сказаць, ці абудзіў праект самасвядомасць беларусаў. Разам з тым, добра, што пакуль ён яшчэ жывы і прыносіць беларускай справе нейкую карысць. Так, на старонцы „Галерэя" рэалізатары праекта распавядаюць у відэасюжэтах і падборках фотаздымкаў пра тое, што яны рабілі за гэты час. У рубрыцы „Кніжная паліца" наведвальнікам прапануюцца матэрыялы, датычныя вывучэння шляхецкай тэмы, якія можна пачытаць, не пакідаючы праекта.

На жаль, акрамя вышэйзгаданай „Галерэі" адсачыць дзейнасць у межах праекта на сайце „Шляхецкай спадчыны Беларусі" немагчыма, бо такой справаздачы там няма. Старонка „Прэс-рэліз", дзе, здаецца, павінны быць нейкія расповяды аб прайшоўшых акцыях, пустая з моманту яе стварэння. Шкада, што распрацоўшчыкі праекта так нядбайна паставіліся да прамоцыі сваёй даволі карыснай дзейнасці.

Нешта больш-менш уцямнае адносна гэтай дзейнасці мы можам пабачыць на старонцы „Нашы акцыі". Праўда, там ходзіць не пра тое, што ўжо прайшло, а зноў пра прапановы. Яны тычацца разнастайных экскурсій, якія наладжваюцца разам з турыстычнай кампаніяй, а таксама ўласных тэматычных выступленняў „шляхецкага тэатра".

Аляксандр ЯКІМЮК

## Дата з Календара

## Падзеі і асобы БНР



## 27 лютага — 130 гадоў з дня нараджэння

# Яфіма Бялевіча

Дзеяч беларускага нацыянальнага руху, міністр юстыцыі і фінансаў урада БНР Яфім Бялевіч нарадзіўся 27 лютага 1888 г. у Мінску. Пачатковую адукацыю атрымаў у мінскай гімназіі, з якой быў у 1907 г. выключаны за ўдзел у вучнёўскіх пратэстах. Тады не ўдалося пазбегнуць і арышту. Неўзабаве Яфім Бялевіч быў вызвалены, гімназію скончыў пазней экстэрнам. Пасля гэтага паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага ўніверсітэта, які скончыў у 1912 годзе.

З надыходам Першай сусветнай вайны Яфім Бялевіч быў прызваны ў войска, ваяваў на фронце ў чыне прапаршчыка, а пасля штабс-капітана. У гэты час адбываецца фармаванне нацыянальнага светапогляду асобы. У 1917 г. Бялевіч ад беларусаў-вайскоўцаў быў абраны дэлегатам Першага Усебеларускага кангрэса, які адбыўся ў снежні. Пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі Бялевіч займаў пасаду міністра юстыцыі і фінансаў у Народным Сакратарыяце — першым урадзе абвешчанай дзяржавы. У выніку палітычных разыходжанняў ва ўрадзе зышоў у адстаўку. У чэрвені 1918 г. для ўрэгулявання бежанскага пытання накіроўваўся ў Петраград, Маскву, Віцебск і Смаленск. Пасля стаў дыпламатычным прадстаўніком урада БНР у Кіеве, Адэсе, Берліне. У 1919 г. арыштаваны тагачаснай польскай уладай, але здолеў збегчы з-пад варты. У гэты час Яфім Бялевіч відавочна „пахіснуўся" улева — ён стаў сябрам партыі сацыялістаў-федэралістаў, пазней — Беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў. З апошняй ён выйшаў у жніўні 1920 г. з-за адмовы яе лідараў падпісаць Дэкларацыю пра абвяшчэнне незалежнасці БССР. Далей два гады служыў у Гомелі ў тылавых частках Чырвонай Арміі. Аднак саветы не даравалі Бялевічу яго ўдзелу ў стварэнні БНР і ў кастрычніку 1920 года ён быў арыштаваны асобым аддзелам Заходняга фронту па „падазрэнні ў контррэвалюцыйнай дзейнасці". Праз шэсць месяцаў вызвалены. Далей працаваў у сістэме фінансаў, цягам 1925-1930 гг. займаў пасаду ўпаўнаважанага Народнага камісарыята фінансаў БССР, яшчэ пазней быў на працы ў Беларускім швейным аддзяленні Вышэйшага савета народнай гаспадаркі.

Сталінскія рэпрэсіі не маглі абмінуць асобу з мінулым бэнэраўскага дзеяча. У сакавіку 1932 г. Яфім Бялевіч быў арыштаваны і засуджаны да пяці гадоў зняволення ў савецкім канцлагеры. Этапаваны ў Свірскі канцлагер НКВД Ленінградскай вобласці. Ужо там праз чатыры гады быў узяты пад варту. Ленінградскім судом засуджаны яшчэ да 5 гадоў зняволення і 5 гадоў пазбаўлення правоў. Доўгі час было невядома, дзе і калі загінуў Яфім Бялевіч. Калі адчыніліся архівы, даследчыкі ўстанавілі, што загінуў ён у Магаданскім канцлагеры 13 снежня 1942 г. Праз даволі значны час пазней быў па першым прысудзе рэабілітаваны ў 1963 г. прэзідыумам Мінскага абласнога суда, а па другім — пракуратурай Расейскай федэрацыі ў 1992 годзе.

Лёс Яфіма Бялевіча склаўся не зусім тыпова сярод айцоў БНР. Адны з іх пастанавілі і паспелі з'ехаць на эміграцыю, папрацавалі плённа там на беларускую справу, іншыя — адразу былі вызначаныя як „ворагі народа" і загінулі. Цяжка сказаць, ці Яфім Бялевіч сапраўды шчыра паверыў савецкай уладзе, ці спрабаваў нейкім чынам прыстасавацца да яе, але шанцаў выжыць у той сістэме ў яго не было.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

На фота Яфім Бялевіч у другім радзе справа

# Зрабіў макеты чатырох цэркваў



**Славаміру Аксюціку** з вёсачкі Кабылянка (яна налічвае ўсяго 18 жыхароў) каля Міхалова Беластоцкага павета вельмі падабаюцца драўляныя цэрквы. Іх — помнікаў старадаўнасці — у вялікай Міхалоўскай гміне няшмат. Ён захоплены іх архітэктурай, прывабнасцю.

Спадар Славамір на працягу пяці гадоў зрабіў макеты прыгожых цэркваў у Міхалове, Новай Волі, Пяценцы і Тапалянах. Прысвяціў ім шмат свайго вольнага часу. Макеты перадаў настаяцелям прыходаў у Міхалове, Новай Волі і Тапалянах (зараз не мае іх у сябе дома). Для парафіян гэта нешта новае, рэдка спатыканае. Такія макеты, між іншым, колішняга царскага палаца ў Белавежы ды мясцовай царквы і касцёла выконвае Раман Маліноўскі ў Нараўцы Гайнаўскага павета. Спадар Славамір іх аглядаў.

Зараз Міраслаў Аксюцік намераны зрабіць макет цікавай па архітэктуры драўлянай царквы, сапраўднай жамчужыны ў Юшкавым Грудзе. Гэтая мясцовасць знаходзіцца на скрыжаванні дарог з Міхалова ў Ялоўку і Бандары. Царква стаіць на ўзгорку, з аднаго боку ўзвышаецца над лугамі і сенажацямі і відаць яе здалёк.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



ЗАПРАШЭННЕ

Арганізацыйны камітэт святкавання стагоддзя Беларускай Народнай Рэспублікі сардэчна запрашае

*Чытачоў Нівы*

на ўрачыстыя мерапрыемствы, якія адбудуцца ў нядзелю 25 сакавіка 2018 года ў Беластоку.

У праграме:

10:00 Царква св. Яна Тэолага, вул. Збігнева Герберта 1
• Святая літургія і малебен за беларускі народ

15:00 Падляшская опера і філармонія, вул. Падлесьна 2
• урачыстыя выступленні і віншаванні
• выступ танцавальнага дзіцячага калектыву „Падляшскі вянок"
• канцэрт Лявона Вольскага

*Z cyklu: Rozmowy o ...*

**Sytuacji społeczno – politycznej na Białostocczyźnie w latach 1944-1956**

spotkanie z

**prof. Eugeniuszem Mironowiczem**

**01.03.2018 godz. 17:00**

**Centrum Promocji Regionu „Czerlonka" w Hajnówce**

*ZAPRASZAMY!*

# 04.03 — 10.03

**(22.03. — 20.04.)** Поспехі ва ўсіх пачынаннях. Магчымасць акунуцца ў вір захапляльных эмоцый. Кардынальныя перамены заўсёды да лепшага, але толькі калі вы рызыкнеце паставіць усё на адну карту. Шанцы атрымаць жаданую пасаду. Зрабіце ўсё магчымае, каб хутчэй атрымаць жаданае.

**(21.04. — 21.05.)** Мала ўвагі надаяце свайму здароўю. Стаіце на ростанях некалькіх дарог і не ведаеце, куды менавіта пайсці: затрымацца на працы ці падацца на заслужаны адпачынак. Фізічнае і псіхічнае здароўе вельмі нестабільнае, старанна ўзважвайце ўсе «за» і «супраць» пры рашэнні далейшага прасоўвання па кар'ернай лесвіцы. Пачніце пошукі падпрацоўкі.

**(22.05. — 22.06.)** Чакаюць неверагодныя перамены ў асабістым жыцці. Вы выбіраеце найменшы шлях супраціву. Развіццё падзей дазволіць захаваць свае нервы ў парадку. Нямала карысных знаёмстваў, вы адчуеце сябе сапраўднай медыйнай асобай. Ёсць падстава купацца ў промнях славы. Матэрыяльны прыбытак можна будзе лёгка змяніць, не ўладкоўваючыся на іншую працу. Дзякуючы фінансавым маніпуляцыям можна будзе нядрэнна зарабіць. Хобі можа стаць крыніцай дадатковых грошыкаў.

**(23.06. — 23.07.)** Час багаты на падзеі. Варта заручыцца падтрымкай Жоўтага Сабакі. Варта запісацца на курсы, набыць навыкі, якія потым можна будзе выкарыстоўваць у працы. Паспрабуйце пазбавіцца ад пачуцця скаванасці, паводзьце сябе разняволена і свабодна. Можаце атрымаць прэмію, разлічваць на павышэнне.

**(24.07. — 23.08.)** Варта зрабіць акцэнт на асабістым жыцці. Толькі дзякуючы сваёй амбіцыйнасці зможаце пазбегнуць праблем з начальствам і выканаць усе даручэнні. А там ужо і кар'ерны рост не за гарамі, з доўгачаканым павышэннем заработнай платы. Надайце ўвагу свайму здароўю, запас жыццёвых сіл і энергіі ўжо на зыходзе, але не панікуйце. Правільна рэагуйце на існуючыя магчымасці і перспектывы далейшага развіцця.

**(24.08. — 23.09.)** Мноства выпрабаванняў. Нямала праблем, вырашэнне якіх вы ўвесь час адкладаеце на заўтра. Дамагчыся пастаўленай мэты будзе цяжка. Неабходна засяродзіцца і паспрабаваць скласці план актыўных дзеянняў. Сачыце за сваім здароўем, паспрабуйце не ўжываць тоўстых і смажаных прадуктаў.

**(24.09. — 23.10.)** Спрыяльныя дні 5, 8.03. Адкладзіце ўвасабленне ў жыццё грандыёзных ідэй на іншы час. Не паводзьце сябе занадта марнатраўна. Мяняйце тактыку, інакш безграшоўе будзе вам спадарожнічаць на працягу ўсяго года. Варта памятаць, што ніколі не бывае позна для пачатку чагосьці новага. Вам неабходна кіравацца выразным планам, які дазволіць усё расставіць па сваіх месцах.

**(24.10. — 22.11.)** Усё будзе добра. Не толькі словы, але і думкі становяцца матэрыяльнымі. Зоркі рэкамендуюць запісацца на танцы, пайсці на ёгу, захапіцца псіхалогіяй, курсамі кулінарыі. Поўная свабода і палёт фантазіі. Не зацыкляйцеся на пачуццях. Скарпіёну не трэба вылучацца з натоўпу, ён і так яркая індывідуальнасць, якая ўпэўнена заваёўвае сэрца навакольных. Бізнес-трэнінгі дазволяць пашырыць межы сваіх ведаў, курсы псіхалогіі навучаць лепш разумець навакольных людзей. Добрыя дні: 5, 8.03.

**(23.11. — 22.12.)** Спрыяльныя дні: 6, 8, 9.03. Купідону падабаецца назіраць на вас збоку, на вашы скандалы і інтрыгі. Галоўнае, не загульвайцеся. Матэрыяльнае становішча ў значнай ступені можа ўскладніцца. Давядзецца прыняць важнае рашэнне: адправіцца пазычаць грошы ці знайсці падпрацоўку ў вольныя дні.

**(23.12. — 20.01.)** На асабістым фронце пачнуць адбывацца сапраўдныя баявыя дзеянні, надакучлівыя ўхажоры будуць тэлефанаваць днём і ноччу. Спрыяльныя дні: 5, 9.03. Фінансавыя праблемы больш не страшныя, бо вы ўпэўнена вырашылі ісці да канца. Нізкая заработная плата, хоць і стабільная, даўно вас ужо не ўражвае. Толькі перамогшы ўласную ляноту можна дамагчыся поспеху.

**(21.01. — 19.02.)** Нечаканыя сюрпрызы. У вас ёсць магчымасць нарэшце праявіць сябе. Ідэі, нават вар'яцкія, прынясуць доўгачаканы заробак. Без плана дзеянняў не абысціся. Спрыяльныя дні: 5, 7.03. Паспрабуйце трымаць сябе ў руках і не апускацца да абраз. З-за пастаяннага нядосыпу вы будзеце адчуваць сябе як «выціснуты лімон».

**(20.02. — 21.03.)** Пара выпусціць на свабоду сваіх унутраных монстраў. Будзе разнастайнасць ва ўсім: ад асабістага жыцця і да кар'ерных узлётаў. Закаханыя пары будуць дарыць адзін аднаму станоўчыя эмоцыі і пачуцці, ад якіх з'яўляюцца крылы за спінай. Спрыяльныя дні: 5, 7, 8.03. Вы павінны вельмі пастарацца, каб папоўніць грошыкамі свой банкаўскі рахунак. Калі будзеце працягваць ляжаць на канапе, наўрад ці гэтая задума прынясе вам фінансавы дабрабыт.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

### Шыфраграма

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. няпрошаны горшы за татарына = 25 _ 26 _ 28 _ 29 _ 30 _;
2. не ноч = 1 _ 2 _ 3 _ 19 _ 15 _;
3. жонка бацькі але не маці = 21 _ 22 _ 23 _ 24 _ 6 _ 7 _;
4. цэнтр сярэдневяковага палескага княства = 16 _ 5 _ 8 _ 9 _ 10 _;
5. урачыстая працэсія = 11 _ 12 _ 13 _ 14 _ 27 _;
6. невялікае паглыбленне = 20 _ 18 _ 4 _ 17 _.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | | | | | | | |
| | | | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | | | | | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| | | 16 | 17 | 18 | | 19 | 20 | 21 | 22 |
| | 23 | 24 | 25 | 26 | | 27 | 28 | 29 | 30 |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 6 нумара**

Сінтэз, трызуб, Арарат, Базель, заяц, ювелір, Цюмень, брыганціна.

Рашэнне: **Заразу заразаю выганяюць.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

(працяг з Нівы н-р 8)

# Плямы на панцырах

**15 лютага ў клубе «Hybrydy» ў цэнтры Варшавы адбылася прэзентацыя кнігі Пятра Зыховіча „Skazy na pancerzach. Czarne karty epopei żołnierzy wyklętych". У папярэднім нумары было прыведзена ўступнае слова аўтара. Далей выказаўся Лешак Жэброўскі, у якога на цішотцы выява «Лупашкі» — папулярызатар легенды выклятых жаўнераў, выказваючы напачатак вельмі агульныя прынцыпы прыстойнасці, а далей прыводзячы шэраг закідаў аўтару кнігі, галоўным чынам закідаючы Пятру Зыховічу агульнае ўказанне крыніц, на якія спасылаўся аўтар.**

У першую жа чаргу Лешак Жэброўскі пакрыўдзіўся на вокладку, на якой паказаны «Буры» перад касцёлам у Тургелях у, бадай, 1944 годзе, у суправаджэнні акаўскіх афіцэраў, якія да пазнейшых злачынных дзеянняў Бурага не мелі дачынення, бо былі захоплены савецкімі спецслужбамі і сасланы на Усход. Пётр Зыховіч у адказ паказаў асновы тых дакументаў, на якія спасылаўся ў сваёй кнізе. Да таго дадаў, што ягоная кніга пра маргіналаў; там пазначана, што выклятыя правялі нацццаць тысяч збройных акцый, што змагаліся галоўным чынам з КБВ, УБ, НКВД і іншымі савецкімі фармацыямі. Няма калектыўнай віны і адказнасці, яны — індывідуальныя. Савецкія злачынствы на паляках і на выклятых былі значна больш жорсткія, чым злачынствы выклятых. Гісторыя пісаная Лешкам Жэброўскім, сказаў Пётр Зыховіч, з'яўляецца гісторыяй з адным вымярэннем, плоскай. Польскае войска ў 1939 годзе дапускалася злачынстваў на нямецкім насельніцтве Польшчы, не толькі выклятыя, бо такая натура вайны; ва ўсіх польскіх фармацыях, якія змагаліся на розных франтах, знаходзіліся людзі, якіх паводзіны былі далёкія ад пахвальных.

Аркадыюш Карбовяк, ініцыятар Музея выклятых жаўнераў у Варшаве, на пытанне, ці за сам факт змагання супраць камуністаў трэба ўшаноўваць змагароў, калі нават дапускаліся яны злачынстваў, адказаў, што несумненна так. Займаючыся гэтым пытаннем, датычным перыяду 1918-1990 гадоў, бачна, што за той час усюды даходзіла да ваенных злачынстваў. Тыя, што іх дапусціліся, змагаліся за высокія ідэі — змагаліся з бальшавізмам. Таму лічу, заявіў спадар Карбовяк, што нягледзячы на гэта нельга іх абясцэньваць. Узяць бы капітана Райса — побач падзей, звязаных з забойствам вазакоў, за якую ён асабіста адказны, бо ён даў такі загад, маем дачыненне з пасрэднай адказнасцю за Зані, бо выслаў туды ўзвод падпаручніка «Бітнага», які пасля перастрэлкі тую вёску падпаліў і загінулі 24 асобы, у тым ліку жанчыны і дзеці — не ў перастрэлцы, бо з боку НЗВ ніхто не загінуў. У выпадку Залешан маем падобную сітуацыю — пасрэднай адказнасці. Але складана рэдукаваць біяграфію афіцэра адно да тых непахвальных эпізодаў, якія ў міжчасе здарыліся яму ці ягоным падуладным. А гэта таму, што ў яго шмат станоўчых дзеянняў у структурах Віленскай брыгады АК. Нягледзячы на тыя злачынствы і адказнасць за некаторыя з іх, лічу, што абмяжоўванне біяграфіі гэтага афіцэра да тых падзей з'яўляецца актам несправядлівасці; гэта датычыць не толькі «Бурага», не толькі «Лупашкі», але гэтаксама ацэньваю многіх іншых камандзіраў розных нацый — змагаліся за свае айчыны, загінулі, маглі дапусціцца агідных учынкаў, але нельга іх ацэньваць толькі ганьбавальна, што іх нельга ўшаноўваць.

Алег Латышонак не згадзіўся са сваімі прадмоўцамі, бо калі ў радах выклятых жаўнераў перавінулася 120 тысяч чалавек, то хіба ў іх ліку можна знайсці такіх, якія не мардавалі жанчын і дзяцей. Уся гэтая дыскусія вядзецца вакол некалькіх асоб. Тое, што на вокладцы кнігі паказаны «Буры» з'яўляецца распаўсюдам іконы выклятых жаўнераў. Такой іконай з'яўляецца «Буры», такой іконай з'яўляецца «Лупашка» — але чаму менавіта яны? А ніхто з тых ста дваццаці тысяч, якія такіх учынкаў не ўчынілі? Тут гаворым не пра выклятых жаўнераў, але пра канкрэтных асоб. Калі б спытаць агульнага паляка, якіх ведае выклятых жаўнераў, то ў першую чаргу назваў бы «Бурага», «Лупашку» і «Агня». Не магу зразумець, як такія тры асобы могуць засланіць тыя сто дваццаць тысяч асоб, якія змагаліся за




Польшчу, але ніякіх такіх учынкаў не маюць на сумленні.

У некаторых публікацыях параўноўваецца змаганне КБВ з незалежніцкім падполлем да змагання з сучаснай вайной з тэрарызмам. І пытанне, ці публікацыя такой кнігі не дае аргументаў абаронцам усіх тых эсбэкаў?.. Пётр Зыховіч адказаў, што нягледзячы на гэта нельга выклятых выбельваць і замоўчваць некаторых складаных фактаў з біяграфій падпольшчыкаў. Тое, што ў выклятых было паталагічнае і маргінальнае, у бальшавікоў было нормай. Бальшавіцкая ўлада была найбольш таталітарным і жахлівым рэжымам у гісторыі. Выклятых, калі траплялі ў рукі камуністаў, садавілі на столку, адбівалі ім ныркі, зрывалі ногці, мардавалі іх жахлівым чынам — чырвоныя пасля вайны ўтапілі Польшчу ў крыві — іх ахвяр тысячы, дзясяткі тысяч. А тут маем адзінochныя ахвяры, а найбольшае злачынства гэта пацыфікацыя Паўлакомы ў 366 ахвяр. Таксама калі гаворыцца пра Верхавіны, якія сталі падаркам камуністычнай прапагандзе. У той жа час камуністычныя атрады дапускаліся крывавых лазняў ва ўкраінскіх вёсках, дзе лік ахвяр даходзіў да сотак, у адзін дзень было забіта каля тысячы асоб. Гэта той другі бок меў значна-значна больш крыві на руках.

Гісторык мусіць трымацца праўды, заявіў Аркадыюш Карбовяк, адказваючы на заўвагу Алега Латышонка, хіба што працуе для гістарычнай палітыкі, а тады трымаецца толькі тых станоўчых момантаў звязаных з гісторыяй свайго народа. Гістарычная палітыка ў кожнай дзяржаве імкнецца да таго самага, каб як найлепш паказаць грамадзян свайго народа навонкі. І тады, відома, праводзіцца селекцыя — замятаецца пад дыван не надта пахвальныя факты з мінуўшчыны і асвятляецца тыя найбольш станоўчыя. Затое зусім іншае імкненне таго гісторыка, які займаецца чыстай гісторыяй. Ён мусіць імкнуцца да праўды. Чаму тады на п'едэстал узводзіцца тых ці іншых афіцэраў падполля. Таму, што гэта найбольш вядомыя камандзіры, найбуйнейшых партызанскіх згуртаванняў. На Беласточчыне маем дачыненне з постаццю капітана Рамуальда Райса і ён прыцягвае ўвагу гісторыкаў. Затое тыя, што дзейнічалі ў далейшых шэрагах, не карыстаюцца пакуль такой увагай гісторыкаў.

Было шмат падзей меншага рангу, менш заўважных гісторыкамі, якія можна назваць нікім не загаданай этнічнай чысткай, заўважыў Алег Латышонак. Была гэта стыхійная хваля выгнання, таму што недзе вызначана дзяржаўную граніцу. І некаторыя камандзіры рашылі, што яны хочуць такой Польшчы, дзе не было б ні беларусаў, ні іншых меншасцей. Мяркуецца, што з трыццаці тысяч беларусаў, якія „рэпатрыяваліся" ў Савецкі Саюз, толькі палова зрабіла гэта па сваёй волі. А другая палова папросту ўцякла.

Аркадыюш Карбовяк выказаў меркаванне, што гэта не была этнічная чыстка. Паколькі падполле атаясамлівала беларускую грамадскасць з адабрэннем і падтрымкай камуністычнай улады, аднак большасць беларусаў хацела толькі перарываць на гэтай зямлі, а паколькі гарантавала ім гэта толькі камуністычная ўлада, таму яе і адабралі, адначасна непрыхільна ставячыся да польскага падполля. Таму і падполле прымяняла ў адносінах да іх рэпрэсіі, рэквізіцыі, а яны ладзілі нефармальныя структуры самаабароны, нават у тых спацыфікаваных вёсках. Чатыры вёскі, мяркую, на 120-тысячнае насельніцтва гэтых тэрыторый, не апраўдвае фармуляванні пра масавую этнічную чыстку. Дайшло да трагічных здарэнняў, асабліва беручы пад увагу смерць жанчын і дзяцей. Але былі там і такія, што служылі ў Чырвонай Арміі.

Але ж ніхто ў тую армію не пхаўся, адказаў Алег Латышонак. Я не гавару, што «Буры» ўсіх выганяў, але ягоны атрад раскідаў лістоўкі, каб беларусы выбіраліся ў Савецкі Саюз. Адзіночных расстрэлаў і забойстваў учынена больш, прымушаючы такім чынам сваіх беларускіх суседзяў да выезду, напрыклад дзеля захопу маёмасці. Таму мы, беларусы, гаворым пра нікім не загаданую этнічную чыстку, папросту такім чынам некаторыя самавольна пазбываліся сваіх беларускіх суседзяў.

Лешак Жэброўскі звярнуў увагу на першынства. «Буры» прайшоў цераз 70 або і больш беларускіх вёсак і нікога не замардаваў. Калі тыя мясцовыя грамадствы былі нейтральныя, то нічога не дзеялася. Але калі выказваліся за другім бокам, за савецкім бокам, калі там завязваліся сеткі НКВД, то даходзіла да такіх жахлівых падзей. Трэба таксама помніць, што на гэтыя землі, заходнебеларускія ці заходнеўкраінскія, трэба глядзець інакш — там была беларуская адміністрацыя, беларуская паліцыя, гэта ўзброеныя людзі, якія дапускаюцца жахлівых учынкаў. Ёсць беларусы ў нямецкай службе. І гэтыя людзі пра ўсё ведаюць, лопаюць усе тармазы. Калі б не было вайны, не было б усіх тых наступстваў. Калі пра гэта не ведаем, тады сапраўды можам асуджаць тых выклятых жаўнераў.

Алег Латышонак спытаў, з якім беларускім узброеным атрадам сутыкнуўся «Буры». І хто на Беларусі ўсхваляе тых эсэсаўцаў, што служылі немцам, каму яны героі?

Лешак Жэброўскі адказаў, што органы беларускай самаахоўы пастаўлялі немцам яўрэяў; доказам гэтаму пасляваенныя суды. І тое зло паўстала раней, не тады, калі «Буры» ўваходзіць у вёскі і адразу паліць. Нешта раней сталася.

Але што, спытаў Алег Латышонак. Што сталася ў Занях, у Залешанах, дзе ёсць нейкія факты, што тамашнія беларусы нешта ўчынілі палякам?

Я поўнасцю перакананы, заявіў Пётр Зыховіч, што калі член беларускай самаабароны браў ружжо ад УБ, ад міліцыі і калі страляў да праходзячых побач вёскі атрадаў НЗВ, то ён удзельнічаў у гэтай вайне і законна было з ім збройна змагацца, у тым і расстраляць яго, бо гэта было беспардоннае змаганне. Але ў Залешанах, у хацінах, загінула наццаць цывільных асоб у падпаленых па загадзе капітана Райса хатах; у іх ліку былі немаўляты. Людзі намагаліся ўцякаць з тых хат, а жаўнеры заганялі іх назад і стралялі да іх; жанчына, якая выбег з двойкай дзяцей на руках, застрэлілі. У Занях загінулі 24 асобы і там зноў гінуць жанчыны і дзеці — мы пра гэта гаворым. Вайна і заключаецца ў тым, каб страляць да ўзброеных мужчын, а ў Занях маем дачыненне з сітуацыяй, калі бяжыць адзін жыхар гэтай мясцовасці, яго падстрэльваюць, падае, падбягае да яго ягоная дачка і кліча, каб бацька ўстаў, а адзін з жаўнераў падыходзіць і страляе ў адкрыты рот тае дзяўчынкі. І ў той страшнай агоніі падбягае да яе іншы жаўнер і дабівае яе адзінокім выстралам. Гаворачы пра чорныя карты гісторыі, я не гавару аб застрэленых членах самаабароны, толькі — бо так я выхаваны ў пашане да традыцый польскага ружжа, вайсковага гонару — што вайна гэта змаганне ўзброеных мужчын у мундзірах. І не падпальваецца хат, бо які ад гэтага выйгрыш польскай справе? Якая карысць ад таго, што тыя людзі загінулі? Толькі тое, што мы тут сёння спатыкаемся. І чорнай авечкай вельмі часта лічыцца не тых людзей, якія ў сапраўднасці зашкодзілі легендзе выклятых жаўнераў, страляючы да жанчын і дзяцей, толькі тых людзей, якія пасля гадоў намагаюцца пра гэта напісаць.

А ці тое змаганне выклятых жаўнераў мела сэнс? Мела, адказаў Аркадыюш Карбовяк, бо калі пачалася савецкая акупацыя, падпольшчыкаў сталі вышукоўваць і яны сталі скрывацца, стваpаючы новыя падпольныя арганізацыі, напрыклад НЗВ ці ВіН. У іх вялікага выбару не было, яны выбралі змаганне.

У 1939 годзе, заявіў Лешак Жэброўскі, на Заходняй Беларусі, куды ўваходзіла Чырвоная Армія, беларуска-жыдоўскія банды, таксама з удзелам палякаў, мардуюць тысячы людзей, жанчын і дзяцей таксама, землеўладальнікаў, ксяндзоў, вайсковых асаднікаў, паліцыянтаў, жаўнераў, афіцэраў, колюць віламі, сякуць сякерамі. Тое самае літоўцы. Таму лопнулі ўсе тармазы. Выклятыя жаўнеры гэта дабравольцы, ніхто іх не выганяў у лес. Калі амерыканскія ці брытанскія арміі ўваходзілі ў Францыю, калі вызвалялі Італію, там былі гвалтаванні, грабяжы, напады, забойствы; гэта не аж так як рабілі саветы, але рабілі тое самае. А калі б не вайна, таго не было б.

Мяне даволі часта пытаюць, сказаў Алег Латышонак, ці не шкадую, што сядзеў за «Салідарнасць», бо ж атрымалася, як атрымалася. Не шкадую, бо зрабіў так, як лічу правільна. Гэтак жа і пра сэнс змагання выклятых жаўнераў, бо яны так мусілі зрабіць. Але я супраць стварэння культу выклятых жаўнераў, бо гэты культ шкодзіць Польшчы. Я дзіўлюся аўтару кнігі, які лічыць Варшаўскае паўстанне 1944 года шаленствам, калі паўстанцы кінуліся змагацца без шансаў на перамогу, затое лічыць, што выклятыя жаўнеры паступілі слушна. І лічу, што калі б «Буры» распусціў свой атрад, то гэта было б лепш для Польшчы.

Я лічу, сказаў Пётр Зыховіч, што маем дачыненне з зусім іншымі выбарамі, перад якім стала камандаванне АК, якое рашыла ўзняць Варшаўскае паўстанне; быў гэта выбар жыццё-смерць. Яны прынялі вельмі рызыкоўнае рашэнне даць на вуліцах мільённага горада бой магутнейшаму праціўніку. Прайгралі; і была смерць. А калі б таго рашэння не прынялі, то было б жыццё, бо жыхары горада выжылі б. Затое перад выклятымі жаўнерамі быў выбар смерць-смерць. Многія з іх былі на ўліку бяспекі і ў іх выбар быў або загінуць з ружжом у руках у лесе, або прагніць ва ўбэцкіх катавальнях. І яны рашалі выбраць тое першае; і выпадае гэта ўшанаваць. І лічу, што іх змаганне мела сэнс. Яны змагаліся і за сваю асабістую свабоду і за свабоду Рэчы Паспалітай. Але нельга гаварыць, што яны, як адзіная ў свеце фармацыя, былі беззаганныя. А яны ж такія, як і ўсе іншыя людзі ў свеце.

Пытанне да Аркадыюша Карбовяка: ці таму, пра што зараз гаварылася, знойдзецца месца ў Музеі? Мяркуем, адказаў, пра Верхавіны, пра вазакоў, пра спаленыя вёскі. Гэта і добра, але пра гэта і смуткую. Для прыкладу, у Музеі АК няма пра злачынствы гэтай фармацыі. І калі ў Музеі выклятых жаўнераў будуць паказаны злачынствы, а ў іншых музеях такога не будзе, то атрымаецца, што толькі гэтыя жаўнеры дапусціліся злачынстваў, а іншыя польскія фармацыі не. Гэтага хацеў бы я пазбегнуць.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

[З Вікіпедыі: 6 czerwca 1945 w godzinach rannych oddział „Szarego" (w skład zgrupowania wchodziły oddziały: „Jacka", „Sokoła", „Zemsty" i „Szatana") wszedł do Wierzchowin w mundurach Wojska Polskiego i został przychylnie przyjęty przez mieszkańców, którzy nie zorientowali się, kim są naprawdę żołnierze. Żołnierze „Szarego" opuścili wieś, po czym wrócili i dokonali w niej masowej zbrodni na cywilnej ludności ukraińskiej, której ofiarą padło 196 osób. Według Grünberg i Sprengla ofiar było 194. Ofiary były wyznania prawosławnego, znaleźli się wśród nich także Świadkowie Jehowy.]

ISSN 0546-1960 09